беларуская газэта. Заснаваная ў 1906 г. у Вільні. Адноўленая тамсама ў 1991 г. як штомесячнік. З 1 сакавіка 1996 г. выходзіць у Менску штотыднёва

# НАША НІВА

КУЛЬТУРА, ПАЛІТЫКА

№ 7 (45)
29 красавіка 1996 г.
панядзелак

выходзіць у панядзелкі

ТЭЛЕПРАГРАМА

БІРЖА ПРАЦЫ

## *Вячаслаў Кебіч:* "Я здольны на большае"

*Экс-прэм'ер Беларусі Вячаслаў Кебіч адказвае на пытаньні карэспандэнта "Нашай Нівы" Алега Дашкевіча.*



**"Наша Ніва": Сёньня, праз два гады пасьля прэзыдэнцкіх выбараў, як Вы лічыце, чаму Вы ня сталі прэзыдэнтам?**

Вячаслаў Кебіч: Па-першае, улада, якая ўступае ў нейкую барацьбу (а я быў прадстаўніком улады), заўсёды на старце сур'ёзна прайграе, бо ўсе памылкі ўлады бачныя народу. Па-другое, усе іншыя кандыдаты на пасаду (у дадзеным выпадку прэзыдэнта) заўседы будуюць сваю кампанію на крытыцы ўлады. І ўсе мае супернікі, натуральна, будавалі сваю прапагандысцкую кампанію на крытыцы ўраду. Апошняе, і, можа быць, самае галоўнае — усе чамусьці ўяўлялі, што ўсю ўладу ў нашай краіне меў у сваіх руках Кебіч. А гэта ж далёка ня так. Вы ведаеце, што на тыя часы старшыня Савету Міністраў фактычна ніякай уладай не валодаў. Ён ня меў права зьняць ніводнага міністра без дазволу Вярхоўнага Савету, ня меў магчымасьці зьняць нават старшыню сельсавету, калі той быў зусім ні на што ня варты. Ён, нарэшце, ня меў улады зьняць ніводнага старшыню калгаса. Хоць ва ўсіх было такое ўяўленьне, што Кебіч мае неабмежаваную ўладу. Не было такой улады. Вось гэта — аб'ектыўныя прычыны.

Есьць і суб'ектыўныя. Было дапушчана шмат памылак. Трэба было хутчэй рэфармаваць эканоміку. Як мага хутчэй. Я ж часта азіраўся на парлямэнт, асабліва на тую яго частку, якая не хацела ніякага рэфармаваньня эканомікі. Рэч у тым, што трошкі рыначнікам быць нельга. Да рынку трэба або рухацца, або ня рухацца.

І яшчэ адна суб'ектыўная прычына — я занадта зацягнуў зьмену кадраў. Калі ўжо стала відавочна, каго трэба перамяшчаць, было позна. Пачалася перадвыбарчая кампанія. Хоць я і тады бачыў, што частка кадраў прызначалася адначасова і Вярхоўным Саветам, і мною, і бюро ЦК КПБ, — немаведама які сымбіёз.

Есьць яшчэ і драбнейшыя прычыны. Але, на жаль, вярнуцца нельга. Цяпер бы я такіх памылак не дапусьціў і быў бы больш рашучы ў гэтых пытаньнях.

**"НН": На Ваш погляд, які парлямэнт больш рынкавы — той ці гэты?**

В.К.: Той парлямэнт быў больш рынкавы. Тут, у гэтым, іншы раз небясьпечна нават заікнуцца, нават слова прамовіць. Часам слухаеш выступы дэпутатаў і думаеш — ну калі так, то давайце, урэшце, адкрыта скажам, што вяртаем дзяржплян, давайце зноў пачнем нармаваць і забудзем тады пра рынкавыя адносіны... Але і гэтага ўжо зрабіць нельга. Застанемся адныя ў пустыні. Бо нават калі ставіць пытаньне пра наш саюз з Расеяй, то гэта ўжо не дапускае ніякай іншай формы гаспадараньня, апроч рынку. Усе дзяржавы, якія нас атачаюць, рухаюцца да рынку. Можа быць, толькі Паўночная Карэя, Куба... І тое на Кубе ёсьць зрухі да рынку.

**"НН": У Вашай камандзе, у Вашым урадзе былі зусім розныя паводле сваіх поглядаў людзі. Напрыклад, П.Краўчанка і Ул.Замяталін. І цяпер яны праводзяць зусім рознавэктарную палітыку ў дачыненьні да Беларусі. Якая з пазыцыяў Вам бліжэйшая?**

В.К.: Маю перадвыбарчую кампанію ўзначальваў Мясьніковіч. У штаб уваходзілі Замяталін, Краўчанка, Драгавец і Антановіч. Гэта зусім розныя людзі, якія ўсе стаялі ля вытокаў ідэалягічнай апрацоўкі. Калі яны праводзілі паседжаньне штабу, то кожны імкнуўся даказаць сваю праўду. Калі каму-небудзь удавалася давесьці сваё, ён выходзіў задаволены, на гэтым паседжаньне скончалася і праца скончалася. Словам, усё паседжаньне штабу адбывалася дзеля таго, каб паспрачацца, даказаць, хто мае рацыю. Таму я ня буду сёньня казаць, хто мне бліжэйшы. Хоць бы нават таму, што, напрыклад, той самы Краўчанка сёньня, даючы інтэрвію, у адным

*Працяг на старонцы 3*

# МЕНСК. 26 КРАСАВІКА



Здымак Сяргея Грыца

Каля 16-й гадзіны, случы аўтобусам №18, я стаў нечаканым сьведкам цынізму рэжыму. У аўтобус зайшлі кантралёры, праз колькі хвілінаў пачалі патрабаваць першыя штрафы. І тут пасажыры загаласілі: "Выганяюць на мітынг і яшчэ штраф плаці за праезд!" Гэтыя працаўнікі менскіх заводаў на загад кіраўніцтва ехалі на афіцыйны мітынг на плошчы Бангалор. Я ня схільны думаць, што ўсе ўдзельнікі таго мітынгу былі сабраныя менавіта такім чынам, але тое, што зьбіралі й гэтак —сьведчаньне ўнутранай няўпэўненасьці ўладаў.

Тым самым часам пачыналі разгортвацца падзеі каля Акадэміі Навук. Дэманстрацыя апазыцыі, што рушыла адтуль, была ацэненая ўсімі незангажаванымі інфармацыйнымі крыніцамі ў 50 тысячаў чалавек. Першая спроба спыніць шэсьце рабілася ў раёне плошчы Якуба Коласа. У выніку жорсткай сутычкі кардон прарвалі, дэманстранты перакулілі два міліцэйскія аўтамабілі. Наступная спроба спыніць дэманстрацыю была зроблена ў раёне вуліцы Варвашэні — там шлях перакрылі грузавікамі. Празь іх папросту пералезьлі. Далей дэманстрацыя скіравалася на вуліцу Янкі Купалы — перакулены яшчэ адзін аўтамабіль. Потым — жорсткая бойка ўжо на Нямізе. Шпіталяваныя дзесяць чалавек. Каля Палацу спорту прайшоў мітынг.

Але можа больш драматычныя падзеі распачаліся ўжо пасьля мітынгу. Калі падчас супрацьстаяньня было арыштавана толькі некалькі чалавек, дык цяпер пачалі хапаць на прыпынках. Прыкметы — беларуская мова, сьцягі. Любым коштам выконваўся плян затрыманьня. Любым коштам. Узброеныя людзі ў камуфляжы, што хапалі мінакоў каля ГУМу, зусім не разумелі па-беларуску, у чым і прызнаваліся.

27 красавіка на прэсавай канфэрэнцыі ў штаб-кватэры БНФ было заяўлена, што за

*Працяг на старонцы 2*

## навіны 1-м сказам......



**ЗАБОЙСТВА.** У ноч з 21 на 22 красавіка ад расейскай ракеты загінуў прэзыдэнт Чачэніі Джахар Дудаеў; ягоны пост перададзены віцэ-прэзыдэнту Зэлімхану Ендарбіеву.

**ГРОШЫ.** З 1 чэрвеня спыняецца хаджэньне купюраў 50-рублёвае вартасьці. Пасьля ўсе грашовыя разьлікі будуць рабіцца з акругленьнем да 100.

**ПАНІЖЭНЬНЕ.** Былы міністар унутраных справаў генэрал-маёр Юры Захаранка ўказам А.Лукашэнкі зьніжаны ў годнасьці да палкоўніка і выпраўлены на пэнсію.

**ПАДВЫШЭНЬНЕ.** Лідару лівійскай рэвалюцыі і Лівійскае Джамахірыі палкоўніку Муамару Кадафі нададзена годнасьць ганаровага доктара Ўральскага пэдагагічнага ўнівэрсытэту.

**ТРОХКУТНІК.** Органы КГБ канфіскавалі ў рэдакцыі "НН" фотаздымак, на якім прэзыдэнт РБ выяўлены разам з былой жонкай Славаміра Адамовіча, арыштаванага за верш "Убей президента".

**МЭДАЛЬ.** Акторка Купалаўскага тэатру Марыя Захарэвіч указам А.Лукашэнкі ўзнагароджаная мэдалём Францішка Скарыны.

**СЛАВЯНЕ.** Прадстаўнікі Бэльгіі, Ізраіля й Фінляндыі вырашылі запісацца ў "славянаў" ды ўзяць удзел у "Славянскім базары-96", які адбудзецца з 11 да 17 ліпеня ў Віцебску.

**ЦЯЖАРНАСЬЦЬ.** 37-гадовая амэрыканская сьпявачка Мадона зьбіраецца нарадзіць першае дзіця ад свайго трэнэра шэйпінгу 29-гадовага кубінца Карляса Леона.

**РАДЫЁ.** У сталіцы Ўзбэкістану Ташкенце адкрытае бюро радыё "Свабода". На цырымоніі адкрыцьця прысутнічаў прэзыдэнт краіны Карымаў.

**СЬЦЯГІ.** Прэзыдэнт Расеі Б.Ельцын выдаў указ з дазволам у часе дзяржаўных сьвятаў, воінскіх рытуалаў і імпрэзаў, зьвязаных з баявымі перамогамі расейскага народу, разам зь дзяржаўным сьцягам выкарыстоўваць сьцяг перамогі, г. зн. чырвоны з зоркай.

**ЦЫГАРЭТЫ.** Гарадзенская тытунёвая фабрыка пачынае выпуск новых гатункаў цыгарэтаў: "Мір", "Калярыт" і "Сузор'е". Распрацоўваецца беларуска-італьянскі гатунак "Мірскі замак".

**ВЯРТАНЬНЕ.** Славамір Мрожак, клясык гратэску, вяртаецца з эміграцыі ў Мэксыцы на Бацькаўшчыну. З-за перасьледу камуністычнымі ўладамі літаратар мусіў у 1963 годзе пакінуць Польшчу. Цяпер Мрожаку 66 гадоў.

**МОВА.** Рада Эўропы зацьвердзіла праграму захаваньня мовы ідыш, якая некалі была асноўнай гутарковай моваю сярод жыдоўскага жыхарства Сярэдняй Эўропы, у тым ліку і Беларусі. Сёньня ідыш ведае толькі сталае пакаленьне. Зацьверджаны таксама бюджэт праграмы.

**ПЕРАЙМЕНАВАНЬНЕ.** Гарадзкія ўлады Львова прынялі адзінадушнае рашэньне перайменаваць вуліцу Лермантава ў вуліцу Джахара Дудаева.

## "ЖУРНАЛІСТА МОЖНА СФАТАГРАФАВАЦЬ З КІМ ЗАЎГОДНА"

*Пасьля публікацыі ў "Нашай Ніве" (5'96) артыкула Славаміра Адамовіча "Звычайны фашызм-2", у рэдакцыю зьвярнулася журналістка Ціна Клыкоўская — пэрсанаж артыкула і, як высьвятляецца, былая жонка С.Адамовіча. Нагадаем, што С.Адамовіч у сваім тэксьце і на ілюстрацыях да яго падаў Ц.Клыкоўскую як актывістку арганізацыі расейскіх правых радыкалаў у Беларусі. "Тое, што я пісала пра баркашоўцаў з РНЕ, сустракалася зь імі, прысутнічала на іхных сходах, —сказала нам Ц.Клыкоўская, — гэта мая журналісцкая праца, і гэта не дае падставаў выстаўляць мяне ледзьве не як галоўную фашыстку ў Беларусі. Як журналістка, я магу трапіць у кадар з кім заўгодна", — паведаміла Ц.Клыкоўская і ў якасьці доказу прапанавала "НН" здымак, дзе яна сфатаграфаваная разам з А.Лукашэнкам у пачатку прэзыдэнцтва апошняга.*





Здымак Сяргея Грыца

# 26 КРАСАВІКА

Працяг са старонкі 1

дзесяць дзён да трагічных падзеяў у Беларусь з Масквы прыбыла група з 50-ці афіцэраў расейскага АМОНу, якая разьмясьцілася на базе ў 20-ці км ад Менску ў Ракаўскім напрамку. Тады прыехалі толькі афіцэры. Пра прысутнасьць расейскіх аддзелаў у Менску паведамілі таксама маскоўскія інфармацыйныя праграмы.

Разбой на вуліцах гораду працягнуўся пагромам а палове на 12-ю ночы ў штаб-кватэры БНФ. Арыштаваныя ўсе прысутныя. Амаль ніякія дакумэнты не былі сканфіскаваныя, затое, кіруючыся нейкім архаічным інстынктам, людзі ў форме пазрывалі ды забралі з сабою ўсе сьцягі й харугвы.

Паводле стану на раніцу 27 красавіка было арыштавана каля 100 чалавек. Лідараў апазыцыі хапалі каля іхных дамоў. У другой палове дня называлася колькасьць арыштаваных ужо ў 200 чалавек.

Арыштоўваліся ня толькі беларусы. Адну групу ўкраінцаў з УНСО зьнялі проста зь цягніка ў Баранавічах. Другая даехала й брала ўдзел у менскіх падзеях. Затое зьнік дэпутат Вярхоўнай Рады Ўкраіны Юры Тыма.

Месцазнаходжаньне шмат якіх грамадзянаў Беларусі ў суботу было яшчэ невядомае.

# УЗЬНІКНЕНЬНЕ МЕНСКУ

Досыць рана на абшарах гэтае часткі Эўропы Беларусь пачала вылучацца як самастойны суб'ект або, прынамсі, імкнуцца да гэтага. З цэнтралісцкай сталіцы, якой тады быў Кіеў, на гэта глядзелі, як на сэпаратызм. Адзін з эпізодаў супрацьстаяньня паміж Полацкім княствам і дынастыяй Рурыкавічаў, што прагнула дамінаваць ва ўсім рэгіёне, — бітва на Нямізе ў 1067 г. Тады супраць падданых легендарнага полацкага князя Ўсяслава Чарадзея выступілі войскі трыюмвірату сыноў Яраслава Мудрага: Ізяслава, Сьвятаслава, Усевалада. Нягледзячы на моцныя маразы, яны сабралі палкі й рушылі на ганарлівых: "І падыйшлі да Менску, і мяняне зачыніліся ў горадзе. Гэтыя ж браты ўзялі Менск, і пасеклі мужчынаў, а жонак і дзяцей узялі на шчыты, і пайшлі да Нямігі, і Ўсяслаў выйшаў насупраць. І сутыкнуліся абодва на Нямізе месяца сакавіка ў трэці дзень... І была сеча злая, і многія палі..."

Тая бітва ўвайшла ў сьвядомасьць людзей вобразам "Нямігі крывавыя берагі" — гэты радок быў напісаны ў канцы XII ст., але ўжо пазьней вобраз берагоў трансьляваўся праз мастацтва, праз гістарычную сьвядомасьць. Глыбокая сымболіка ў тым, што першы ўспамін пра Менск зьвязаны з інфармацыяй пра ягонае зьнішчэньне. Культурнае ўзьнікненьне на старонках летапісу зьвязана з разбурэньнем. Пасьля зьнішчэньня пачынаецца пэрыяд адбудовы і ўзвышэньня Менску. У XII ст. ён ужо канкуруе са сталіцаю княства — Полацкам. Паступова Менск робіцца сэрцам краю. Але адлік ягонага росту вядзецца ад 1067 г.

Як і тады, 26 красавіка 1996 г., я спазьніўся. Заняты цэлы дзень, толькі пад 19-ю гадзіну здолеў выбрацца ў бок Нямігі. Спадзяваньне даехаць транспартам было наіўнае — усе тралейбусы й аўтобусы згурбіліся каля Опэры. Спускаючыся да Нямігі, да Хлусава маста*, я быў уражаны дзіўным відовішчам —шчыльны ланцуг людзей зь вялізнымі зялёнымі шчытамі выцягнуўся ад пагорку, на якім стаіць Верхні горад, да Нямігі, акурат да таго месца, дзе некалі працякала (а сёньня закатаваная ў калектар) легендарная рака. Уся гэтая браняваная маса толькі што адбілася ад натоўпу людзей, якія рушылі цяпер убок. Валяліся камяні. У лагчыне, на пляцоўцы перад тым месцам, дзе некалі ўзвышалася брама Менскага замку, сьцішваліся аблокі газу, але газавыя шашкі яшчэ дыміліся. Паралелі з 1067 г. былі настолькі нечаканыя, што блыталіся гістарычныя эпохі. Пра канец XX ст. сьведчыў толькі антураж.

Але чаму ўсё ж такая жорсткасьць была праяўлена 26 красавіка ў Менску? Лютасьць міліцыі тлумачыцца вызначальнаю роляй расейскіх інструктараў. Іхныя інстынкты на чужыне былі больш разьняволеныя.

Бескампраміснасьць прадстаўнікоў беларускага грамадзтва тлумачыцца, у тым ліку, постшокавай рэакцыяй. Пасьля стольскіх прыніжэньняў, пасьля маральнага тэрору адбываецца псыхалягічны зрыў. Адначасова адбылася трансфармацыя вобразу талерантнае Беларусі. Што важна — ня толькі вонкавага, але і ўнутранага.

26 красавіка прыўнесла новыя рысы ў палітычнае сытуацыю ў Беларусі.

Удзел расейскіх аддзелаў у менскіх падзеях прывёў да зьмены раней толькі юрыдычнага статусу акупацыі. Цяпер на сцэну падзеяў выйшлі ўласна акупацыйныя войскі. Гэта першая рэальная "дапамога" Расеі для Беларусі пасьля ўтварэньня "Сообщества".

Але 26 красавіка ўпершыню выразна прагучалі лёзунгі з патрабаваньнем адстаўкі Аляксандра Лукашэнкі. Гэтае патрабаваньне ўтрымвалася й ва Ўхвале, прынятай на мітынгу.

Беларусі ўсё ж не ўдалося пазьбегнуць усіх драматычных сюжэтаў лёсу Сярэдняй Эўропы ў XX ст. Тое, што адбывалася ў Будапэшце ў 1956 г., у Празе ў 1968 г., цяпер паўтараецца ў Менску. У гэтым сэнсе Менск нараджаецца. Пад націскам брутальнай узброенай сілы наш горад паў, ягоныя жыхары захопленыя ў палон ды скрываўленыя. Менскі замак узяты ў аблогу, у Нямігі, як і 929 гадоў таму, зьявіліся берагі. Але Менск зноў узьнік на старонках гістарычнага летапісу як горад Сярэдняй Эўропы.

**Алег Дзярновіч**

* Так гістарычна завецца мост, што вядзе да Траецкага прадмесьця.


"Наша Ніва"
незалежны тыднёвік

НАША НІВА

заснаваны ў 1906,
адноўлены ў 1991

| | |
| --- | --- |
| заснавальнік і выдавец | Павал Жук |
| рэдактар | Сяргей Дубавец |
| адказны сакратар | Алег Дзярновіч |
| мастацкі рэдактар | Сяргей Харзўскі |
| навіны | Уладзімер Бараніч |
| рэдактар дадатку "Інфарматар" | Андрэй Лапцёнак |
| макет | Віктар Корзун |
| мантаж | Лявон Раманчык |
| набор | Таццяна Чуйвід |
| стыліст | Антон Кузьміч |
| карэктура | Сяргей Сматрычэнка |
| пры ўдзеле | Сяргея Шупы |
| прадстаўнік рэдакцыі ў Гомелі (тэл. 56-94-36) | Зьміцер Бартосік |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ**
**220123 Менск, а/с 71**
**Падпісны індэкс 63125**

**Тэл./факс 36-76-75**


# КРАІНА

**ЖЫТЛО.** Міністэрства жыльлёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі выступіла з прапановай павялічыць зь першага траўня дзейныя тарыфы на паслугі. Квартплата мусіць павялічыцца ў 1.7, вада — у 3.9, каналізацыя — у 3.7 раза. А кошт ацяпленьня ды гарачай вады хочуць падняць у 3 разы. Калі гэткае павышэньне адбудзецца, то сям'і з трох чалавек, якая жыве ў двухпакаёвай кватэры ў ацяпляльны сэзон, давядзецца плаціць блізу 430 тыс. руб. Свае прапановы міністэрства апраўдвае пераходам на самаакупнасьць. Узамен яны прапануюць павялічыць памеры субсыдыяў для аплаты жытла ды паслугаў. У такім выпадку сёлета доля кампэнсацыяў гэткіх выдаткаў можа дасягнуць 80%. Заўчора ўвечары афіцыйныя крыніцы заявілі, што журналісты пасьпяшаліся абвясьціць пра павелічэньне квартплаты. Няхай пасьпяшаліся, пытаньне ў тым, на колькі?

**БАГАТЫРЫ.** Сярэдні жыхар Беларусі ўсяго ў пяць разоў бяднейшы за такога ж сярэдняга амэрыканца, але трохі багацейшы за паляка, эстонца, літоўца, румына і латыша. Прынамсі так, калі верыць "Радыёфакту", сьцьвярджае Эўрапейская камісія, што апублікавала параўнальныя статыстычныя дадзеныя аб узроўні жыцьця ў розных краінах. Пры разьліках спэцыялісты Эўрапейскай камісіі зыходзілі не з прынятага ў статыстыцы паказчыка валавага ўнутранага прадукту на душу насельніцтва, які вылічваецца ў далярах. За падставу бралася магчымасьць сярэднестатыстычнага жыхара атрымаць на свае даходы пэўны аб'ём тавараў ды паслугаў. Паводле ж традыцыйных разьлікаў мы ў 74 разы бяднейшыя за японцаў і тэарэтычна даўно памерлі з голаду.

**ГУМА.** Зьдзейсьнілася мара зялёных. Замест "таннай" смуроднай нафты з Расеі беларускі шынны завод будзе выкарыстоўваць натуральную сыравіну для колавай гумы. Дзеля гэтага ў далёкім Віетнаме будзе спэцыяльна закладзеная плянтацыя каўчукавай гевэі плошчаю ажно ў 8000 га. Праўда робіцца гэта не з экалягічных, а з эканамічных меркаваньняў.

**ЧЫГУНКА.** Даходы ад перавозак пасажыраў на прыгарадных лініях беларускай чыгункі толькі на 35% пакрылі выдаткі. Агульныя страты ад электрычак і дызэляў склалі за першы квартал болей за 120 мільярдаў рублёў. Стратнымі зьяўляюцца таксама мясцовыя грузавыя і пасажырскія перавозкі. Трымаюцца на плыву чыгуначнікі ў асноўным за кошт транзытных грузаў ды міждзяржаўных пасажырскіх рэйсаў.

**ТАКСІ.** У Менску зьявіліся жоўтыя таксі маркі ГАЗ-3109. Выпускам машынаў такога колеру, больш характэрнага для вуліцаў Нью-Ёрку, заняўся Горкаўскі аўтазавод на замову маскоўскай мэрыі і адмыслова для Расейскай сталіцы. Плянуеццца, што белакаменная атрымае 5000 такіх таксі. Менску перападзе 60. 10 ужо працуюць на нашых вуліцах. Адметнаю рысай новага таксі зьяўляецца таксомэтар, што адразу выдае кошт праезду для кожнага з чатырох пасажыраў паасобку.

**МАСОНЫ.** Сакратар Вярхоўнага Савету па нацыянальнай бясьпецы, прадстаўнік фракцыі камуністаў Валеры Шчукін даў сэнсацыйнае інтэрвію газэце "Белорусская нива" пад назвай "Валеры Шчукін супраць Джорджа Сораса". Ён абвінаваціў Фонд Сораса ў падрыўной дзейнасьці супраць былога ды будучага СССР, а таксама цяперашняга "Отечества" (мусіць, "Сообщества"). Ён сказаў, што развал СССР — гэта вынік змовы "масонаў" ды "сусьветнага ўраду". Паводле Шчукіна, беларускі Пэн-цэнтар зьяўляецца масонскай структурай. Масонамі, паводле Шчукіна, апроч нашых Быкава ды Барадуліна, зьяўляюцца Міхаіл Гарбачоў, Абалкін, Бакацін, Лужкоў, Сабчак, Валкагонаў, Шэварднадзэ ды Яўлінскі. А прэзыдэнт Расеі і наогул рыцар-камандор Мальтыйскага масонскага ордэну. Асабліва дасталося Джорджу Сорасу. У дабрачыннай дзейнасьці сусьветна вядомага філянтропа Шчукін угледзеў імкненьне сусьветнага масонства ды ізраільскага "Масаду" разваліваць эканоміку розных краінаў, адукацыю ды наагул увесь лад жыцьця. Нават слова філянтроп падаецца як адмоўнае. Усё інтэрвію вытрыманае ў духу 30-х гадоў і пераказу не паддаецца. Аматары жахаў атрымалі сапраўдную асалоду. І "відзікаў" ня трэба.



Цень маці. Здымак Анатоля Клешчука

*Выстава здымкаў Анатоля Клешчука, прысьвечаная 10-й гадавіне чарнобыльскае трагедыі, працуе ў Дзяржаўным мастацкім музэі з 24 красавіка да 12 траўня. Подпісы да здымкаў зробленыя паэтам Алесем Разанавым. "Гэтыя здымкі — больш чым я", — кажа А.Кляшчук. Тэма перарастае аўтара. Пасьля сотняў дзіцячых магілаў застаецца адзін здымак. Пасьля сотняў дзіцячых твараў застаецца адзін боль. Тое, што зрабіў Кляшчук, засядае стрэмкаю ў сьведамасьці, не дае будаваць мэтафізычныя канструкцыі, а прымушае зжывацца з гэтымі творамі, з гэтымі лёсамі. Гэта ня наш брутальізм, гэта наша жыцьцё.*

С.Х.

*Вячаслаў Кебіч:*

# “Я здольны на большае”

Працяг са старонкі 1

месяцы сказаў так: я ня мог угаварыць Кебіча, каб ён адмовіўся ад барацьбы за прэзыдэнцтва. Калі б я тады заявіў, што не хачу і не пайду кандыдатам у прэзыдэнты, то першы б найбольш абразіўся Пятро Краўчанка. Бо ён вельмі не хацеў страціць пасаду міністра замежных справаў... Таму цяжка сказаць, хто зь іх мне бліжэйшы.

**“НН”: Я маю на ўвазе ня іх асабіста, а іх пазыцыі ў дачыненьні да Беларусі.**

В.К.: Я сёньня далёкі ад некаторых падыходаў Замяталіна. Але калі Замяталін выступае толькі за саюз з Расеяй, у гэтым я яго падтрымваю. Я не магу зьмяніць свае адносіны. Але я за такі саюз з Расеяй, дзе б Беларусь была зусім самастойнай дзяржавай. Гэта значыць, пры поўным захаваньні суверэнітэту. А калі мы пачынаем гаварыць пра агульную армію ў будучыні, то тады давайце мы ня будзем казаць пра нейкі ССР ці СССР, а будзем казаць пра канфэдэрацыю, якая рана ці позна можа прывесьці да фэдэрацыі.

**“НН”: Што тычыцца маскоўскага ўплыву, наколькі ён моцны ў дачыненьні да Беларусі?**

В.К.: Уплыў Расеі быў і ёсьць вельмі моцны. Хоць бы з пункту гледжаньня нашага геаграфічнага становішча. Таму я больш чым упэўнены, што тут прысутнічаюць і дух, і работа, і ідэі многіх расейскіх палітыкаў і, на жаль, гэта абмінуць немагчыма.

**“НН”: Ці гэты ўплыў вызначальны?**

В.К.: Калі не вызначальны, то вельмі і вельмі моцны. Нам ня трэба забывацца таксама, што большасьць народу усё ж за саюз з Расеяй. Ужо ўкараніліся ў людзей адносіны да расейцаў, як да самiх сябе, да беларусаў.

**“НН”: Ёсьць думка, што і Вашу, і Лукашэнкаву выбарчую кампанію падтрымвалі ў Маскве...**

В.К.: Калі б Расея падтрымвала Кебіча, то Кебіч быў бы прэзыдэнтам. Я растлумачу чаму. Калі б не адкладваньне зь месяца на месяц, з тыдня на тыдзень падпісаньня дамовы аб адзінай грашовай сыстэме, то я меў бы вялікія шанцы. А тое, што я прыяжджаў і казаў, як мне казалі ў Расеі, маляў, праз месяц мы падпішам, то гэта ўспрымалася народам як мая, прабачце, хлусьня і як маё неадольнае жаданьне за ўсякую цану стаць прэзыдэнтам.

**“НН”: Чаму, нягледзячы на Вашы добрыя адносіны з Чарнамырдзіным, Масква Вас усё ж не падтрымала?**

В.К.: Чарнамырдзін быў у меншасьці сярод тых людзей, якія ўплывалі на падпісаньне дамовы. Гэта стала гісторыяй, але я згадваю, як аднойчы ў кабінэце мяне не заўважылі, што я стаю, і ўбег адзін высокапастаўлены расейскі кіраўнік і зь вялікай радасьцю сказаў: не пераживайце, сёньня падпісаньне не адбудзецца, таму што, наколькі вам вядома, Багданкевіч гэты дакумэнт не падпіша...

Так што былі людзі, незацікаўленыя ў гэтай дамове. Тут — меней, з таго боку — нашмат больш. Адным з тых, хто зацята выступаў супраць, быў Гайдар, зь якім, дарэчы, я меў вельмі добрыя адносіны. Гэта быў заказ іншых дзяржаваў наконт таго, каб наш саюз не адбыўся. Але тады саюз меў чыста эканамічны характар.



**“НН”: Калі Масква падтрымвала на выбарах Лукашэнку і цяпер размова ідзе пра саюз значна больш шчыльны, чым прапаноўвалі Вы, значыць у Маскве нешта рэзка зьмянілася?**

В.К.: Як бы мы ні казалі сёньня пра тое, што гэты саюз ніяк не ўплывае на прэзыдэнцкія выбары ў Расеі, я з гэтым ніколі не згаджуся.

**“НН”: Вашыя адносіны з прэм'ерам Расеі Чарнамырдзіным засталіся такія самыя?**

В.К.: Тады гэта былі адносіны двух прэм'ераў. Натуральна, такімі яны не засталіся. Але адносіны таварыскія, добрыя, цёплыя засталіся ранейшыя. І гэта датычыць ня толькі прэм'ера Расеі, але і многіх іншых лідараў, зь якімі я працаваў. Я ня ведаю Аліева, ня ведаю Шэварднадзэ, але з Тэр-Петрасянам, Назарбаевым, Карымавым у мяне цёплыя адносіны.

**“НН”: Калі б Вам удалося стаць прэзыдэнтам, чым бы Ваша палітыка адрозьнівалася ад той, якую праводзіць Лукашэнка і наколькі б яна адрозьнівалася ад той палітыкі, якую сёньня праводзіць Кучма ва Ўкраіне?**

В.К.: Я ня буду наўпрост адказваць на гэтае пытаньне, выходзячы з таго абяцаньня, якое даў, выступаючы перад выбаршчыкамі, калі быў кандыдатам. Я тады сказаў, што калі мяне ня выберуць, я ня буду перашкаджаць палітыкам сёньняшняга дня, каб яны кіравалі дзяржавай. Наадварот, там дзе я магу дапамагчы, там я дапамагаў, дапамагаю і буду дапамагаць дзеля таго, каб беларускі народ мог жыць так, як ён гэта заслугоўвае.

**“НН”: Ці задавальняе Вас тое месца ў палітычным жыцьці краіны, якое Вы займаеце цяпер і ці паспрабуеце гуляць ролю больш актыўнага палітычнага лідара?**

В.К.: Напэўна, вы хочаце, каб я казаў ня круглымі фразамі, а больш шчыра... Не, вядома, не задавальняе. Я здольны на большае. І здароўе, і розум, і досьвед мне дазваляюць рабіць нашмат болей, чым я раблю сёньня.

**“НН”: Зь якой палітычнай сілай краіны Вы зьвязваеце сваю будучыню? Нібыта Вы мелі кантакт з Сацыял-Дэмакратычным Саюзам...**

В.К.: Я маю добрыя адносіны, добры кантакт з усімі дэпутацкімі фракцыямі, якія ёсьць у сёньняшнім парлямэнце. І я аднолькава магу падысьці да Сечкі, да Калякіна ці да таго ж Багданкевіча, і мы вядзем размову на роўных, ніякіх палітычных антыпатыяў у нас няма. Але чаму я ня вызначыўся? Таму што ніводная з групаў дастаткова выразна не афармілася і не заняла выразнай пазыцыі. Мне ж займацца экспэрымэнтамі... пакуль ранавата. Акрамя таго, некаторыя, жадаючы, каб я ўступіў у якуюсь фракцыю, спадзяюцца за кошт майго імя прыцягнуць да сябе іншых. Я б гэтага не хацеў.

**“НН”: Наколькі сёньня фінансы ўплываюць на палітыку ў Беларусі?**

В.К.: Я б сказаў так: больш за 50 працэнтаў. Калі хочаце, яны сёньня вызначальныя пры афармленьні тых ці іншых палітычных дамоваў. Нават большасьць дэпутатаў, якіх выбралі, яны прайшлі або на абяцаньнях, што фінансава дапамогуць выбаршчыкам або праз нейкія эканамічныя рэформы, або проста грашыма, якія былі ў іхным распараджэньні.

**“НН”: Тым ня менш, чаму беларускі бізнэс у такіх неспрыяльных для яго ўмовах займае такую пасіўную пазыцыю ў адносінах да палітыкі?**

В.К.: Наш бізнэс вельмі дробны і наяўнасьць грошай у большасьці бізнэсмэнаў настолькі нікчэмная, што яны проста ня могуць уплываць сваімі грашыма на палітыку. Сёньня мы можам на пальцах вось гэтых дзьвюх рук пералічыць тых бізнэсмэнаў, якія маюць хоць нейкія грошы. Астатнія — дробныя гандляры, перакупшчыкі, пасрэднікі, якія перабіваюцца, абы пражыць.

**“НН”: Але ёсьць банкі. Улады нацыяналізуюць банкі, нацыяналізуюць біржу, і — ніякай рэакцыі. Чаму?**

В.К.: Будзем зыходзіць з таго, што гэта і ёсьць беларускі мэнталітэт. Гэта па-першае. Па-другое, да прыкладу, ашчадны банк. Былы ашчадны банк. Што ён, быў багаты? Не. Ён быў вельмі бедны, фактычна дзяржаўны банк. У нас сёньня банкаў, што здольныя хоць неяк уплываць на сытуацыю — два-тры. Усе астатнія ня могуць даваць ні крэдыты, нічога. Усе працуюць толькі на пагашэньне ранейшых крэдытаў. Таму вы ня думайце, што банкі нашыя сёньня багатыя. Яны вельмі бедныя.

**“НН”: Я нават не пра багацьце, я — пра жыццёвую пазыцыю...**

В.К.: Напэўна кожны, хто сёньня займае хоць трохі выгоднае становішча ў жыцьці, ня хоча яго згубіць. Ён ужо ўладкаваўся нейкім чынам, навошта ж яму будзіць, прабачце, дзеля таго, каб заўтра страціць працу?

**“НН”: Прэзыдэнта не запрашаюць на абмеркаваньне праблемаў ядзернай бясьпекі ў Маскву. Як Вы думаеце, чым гэта выклікана?**

В.К.: Атрымалася так, што ў нас няма ядзернай зброі, няма ядзерных адходаў, і таму — навошта нас запрашаць? Хоць мы ж былі ядзернай дзяржавай. І крыўда тут павінна быць і ў прэзыдэнта, і наагул у нашага кіраўніцтва. Калі ўжо мы падпісалі з Расеяй дамову, паводле якой такія пытаньні павінны вырашаць разам, я лічу, гэта — пагардлівыя адносіны да Рэспублікі Беларусь, што яна не была запрошана за стол перамоваў. З пункту гледжаньня палітычнага, а найперш — маральнага, Беларусь павінна была прысутнічаць.

**“НН”: Ці ня лічыце Вы, што гэта своеасаблівы адказ на палітыку прэзыдэнта Лукашэнкі, я маю на ўвазе тыя дзеяньні, якія мелі месца тут, у Беларусі: паветраны шар, інтэрвію для нямецкай газэты, заключэньне дамовы з Расеяй?..**

В.К.: Ані краінам NATO, ані тым, што хочуць далучыцца да NATO, ані нашым суседзям не падабаецца тое, што ў нас ёсьць нейкія дзеяньні, накіраваныя на збліжэньне Беларусі і Расеі. Я гэта адчуў яшчэ тады, калі хацеў стварыць адзіную рублёвую зону. Некаторыя паслы і кіраўнікі ў мяне наўпрост пыталіся: навошта вам гэта патрэбна? Нэгатыўных адносінаў да гэтага ніхто не хаваў. Першыя кіраўнікі краінаў мне так проста і казалі: мы б вам дапамаглі, калі б вы так шчыльна не збліжаліся з Расеяй. Хоць ніякай дапамогі нам ня трэба было чакаць ні тады, ні цяпер ніхто нам яе ня дасьць таксама.

**“НН”: А Расея?**

В.К.: Мне здаецца, адзінае, што зроблена слушна, як першы крок, гэта так званы нулявы варыянт. Але яго ж трэба давесьці да канца. Пакуль гэта яшчэ толькі на паперы. Трэба ж і абмяняцца вэксэлямі, і скасаваць даўгі праз міністэрствы фінансаў абедзьвюх краін. Ну і акрамя гэтага разьлічваць на тое, што мы напрасткі атрымаем грошы ад Расеі, я думаю, пакуль не даводзіцца. Там сваіх праблемаў ня менш, чым у нас.

**“НН”: Паводле некаторых зьвестак, ужо пасьля падпісаньня нулявога варыянту мы зноў павінны Расеі за энэрганосьбіты 200 мільёнаў. Чаго вартае пагадненьне аб саюзе з Расеяй без рэфармаваньня нашай эканомікі?**

В.К.: Я ўжо аднойчы казаў у сваім інтэрвію, што гэта толькі дамова падпісаная. Гэта пакуль толькі рамачнае пагадненьне, добрае пажаданьне. Без напаўненьня яно ня мае ніякай сілы. Ну, хіба што дамова аб узаемным ненападзе... І тое, мы ведаем тысячы прыкладаў, калі падпісваліся падобныя дамовы, а роўна праз два гады яны не былі нічога вартыя.

**“НН”: Пытаньне наконт рэфэрэндуму і беларускай мовы. Вы часам гаварылі па-беларуску, але ў часе перадвыбарчай кампаніі дэманстратыўна размаўлялі па-расейску...**

В.К.: Вы ня маеце рацыі. Я вам адкажу так. Што тычыцца рэфэрэндуму. Рэфэрэндуму па мове я б не праводзіў. Гэта антымаральна. Але права размаўляць на іншай мове таксама адбіраць нельга. Што тычыцца маіх размоваў, то на кожнае пытаньне, якое мне задавалася па-беларуску, я таксама адказваў па-беларуску.

**“НН”: А што тычыцца сымболікі?**

В.К.: Што казаць пра тое, чаго ўжо няма. Рэфэрэндум адбыўся, што цяпер казаць? Вяртацца да гэтага пытаньня, я лічу, і неразумна, і значыць яшчэ раз правакаваць супрацьстаяньне ў грамадзтве.

**“НН”: Калі Вы былі прэм'ерміністрам, ад Вас даставалася прэсе...**

В.К.: Дай бог, каб вам цяпер даставалася так, як ад мяне.

**“НН”: ... а цяпер журналісты са шкадаваньнем згадваюць пра кебічаўскую адлігу. Ці зьмяніліся Вашыя адносіны да прэсы за гэты час?**

В.К.: Так, зьмяніліся. Таму што калі б я тады супраць пэўных газэт не выступаў, тады б у іх не было жаданьня нападаць на мяне. Калі чалавек не зьвяртае ніякай увагі на нешта, тады і супрацьстаяньня зь іншага боку няма.

Я недзе недапрацоўваў, недзе перадавяраў тым памочнікам, якія займаліся прэсай. І нам даставалася і з боку правых, і з боку левых. Але мы праявілі дзівосную гнуткасьць, бо нам дастаўся якраз самы цяжкі пераходны пэрыяд, калі было цяжка нават проста зарыентавацца, як зрабіць, і, тым ня менш, мы ўсталі. Кебіч быў ва ўсіх краінах СНГ адзіны прэм'ер, які доляй за ўсіх заставаўся на пасадзе прэм'ер-міністра. І ўсё ж мы ня страцілі тады кіраваньня народнай гаспадаркай. У нас не было ніводнага выпадку, каб нейкае прадпрыемства выплаціла заробак ня ў час. Успомніце: хіба бюджэтныя арганізацыі заставаліся бяз грошай? І заўсёды падвышэньню коштаў папярэднічала падвышэньне заробатнай платы. Гэта я заношу сабе ў актыў.

*Алесь Аркуш*

# Перадвыбарчы поціск Барыса Мікалаевіча



Прысьніўся Ельцын. Нібыта мы зь ім спыніліся ў адным гатэлі. У фае, пры сваёй звыклай ахове, ён раздаваў усім нейкія ці то буклецікі, ці то кніжачкі. Я сутыкнуўся зь ім амаль нос у нос. Барыс Мікалаевіч, прыязна пасьміхаючыся, падаў мне сваю пульхную далонь і са словамі "Галасуйце за мяне" ўручыў перадвыбарчы прэзэнт. Наступны раз мы зь ім сутыкнуліся на ганку гатэля. Я хацеў праскочыць каля расейскага прэзыдэнта, атачанага купкай целаахоўнікаў, незаўважна, аднак Ельцын, убачыўшы мяне, зрабіў некалькі крокаў насустрач і, як старому знаёмаму, зноў працягнуў мне сваю перадвыбарчую далонь. Памятаю ягоны моцны, старанны поціск. "Як справы?" — спытаўся ён. "Нармальна", — адказаў я. "Малайцом!" — пахваліў прэзыдэнт. Наступныя кадры сну я бачу як на экране кінатэатру. Камэра здымала гэты момант з-за сьпіны Барыса Мікалаевіча, які сядзеў у вялікім прэзыдэнцкім "членавозе" на пярэднім сядзеньні побач з кіроўцам. Картэж ехаў па вуліцы гораду. "Членавоз" спыніўся насупраць мяне. Прэзыдэнт націснуў нейкую кнопку і зацемненае шкло павольна апусьцілася. Ельцын выцягнуў руку з машыны і з унутранай кішэні майго пінжака забраў свой прэзэнт. Пры гэтым не было вымаўлена ні гуку. Вочы прэзыдэнта былі налітыя крывёю. Я спужаўся і прачнуўся. Доўга намагаўся ўзгадаць — што гэта за прэзэнт я атрымліваў ад Барыса Мікалаевіча.

❑

У Варшаву ехаў у купэ разам з армянінам. Да мяжы ён упарта маўчаў, уткнуўшы свой нос у кнігу. Пасьля Кузьніцы Беластоцкай разгаварыўся. Распавёў, што ён былы афіцэр савецкай арміі. Доўгі час служыў у Польшчы ў кантынгенце "чырваназоркавых касак". Лічыць тыя гады найлепшай парою свайго жыцьця. Пасьля вываду савецкіх войскаў з Польшчы ягоную частку расфармавалі, і малады афіцэр застаўся без жыльля, працы і цывільнай спэцыяльнасьці. Шмат пакутаваў. Кім толькі не працаваў. На радзіму не паехаў, маўляў, там голад, беднота і ніякай пэрспэктывы. Даведаўся, што ягоны былы камандзір зноў фармуе вайсковае падраздзяленьне. Прыехаў да яго на гутарку. Высьветлілася, што частку зьбіраюць для Чачэніі. З дылемы: або Чачэнія, або нічога, — выбраў нічога. Хто згадзіўся на Чачэнію, атрымалі кватэры ў пабудаваным туркамі новым вайсковым гарадку і добрыя пад'ёмныя. Многія афіцэры былі гатовыя коштам уласнага жыцьця хоць неяк забясьпечыць існаваньне сваім сем'ям. Афіцэр з-пад Ерэвану зноў застаўся ні з чым. Прыехаў да сваякоў, якія аселі ў Беларусі. Стаў трэніраваць мясцовых дзяцей боксу. Паступіў у Маскве на завочны юрфак. З агідаю езьдзіць у расейскую сталіцу на сэсіі — не бывае там такога дня, каб хлопцы ў плямістых камбэзах не спынялі мужчыну "каўказкай нацыянальнасьці", бясцырымонна шукаючы зброю або выбуховае прыстасаваньне. Цяпер ён кіруецца да сваіх старых польскіх знаёмых, маладой сям'і фэрмэраў, зь якой пасябраваў падчас службы за кардонам. Спадзяецца падзарабіць — папрацаваць на фэрме і ў цяпліцах.

❑

Сустрэў на наваполацкай вуліцы знаёмага прадпрымальніка. На веснавых парлямэнцкіх выбарах я меў зь ім гутарку наконт удзелу мясцовых бізнэсмэнаў у перадвыбарчай кампаніі. Ён казаў, што ўся гэтая палітычная валтузьня яго не датычыцца. Ягоная справа — рабіць грошы, ладзіць рынкавую эканоміку. Сёньня ён лічыць інакш. Жаліўся на жахлівыя ўмовы, на "эканамічны экстрэмізм" і "маразматызм" уладаў. Я нагадаў пра былую гутарку — мой прагноз наконт таго, што будзе, калі беларускія прадпрымальнікі не павернуцца тварам да палітыкі. Трэба было ў свой час паспрачацца зь ім хоць бы на пляшку кан'яка, тым больш, што мясцовым камэрсантам ужо забаронена прадаваць яго ў сваіх крамах. Можна толькі гарэлку полацкага разьліву.

❑

Калі я прыехаў стала жыць у Наваполацак (1987 год), усе мясцовыя "нацэмы" зьмяшчаліся ў рэдакцыйным пакойчыку газэты "Химик" падчас пасяджаньня літаб'яднаньня "Крыніцы". Сёньня цяжка нават пералічыць тутэйшыя "нацдэмаўскія" арганізацыі і тусоўкі: Полацка-Глыбоцкая суполка СП, "тэвээлаўцы", уніяты, тэатар-студыя "Зьніч", суполка "Беларускае шоў", гістарычны клюб "Княжыч", каталікі, "бэнээфаўцы" і г.д. Большасьць лідараў гэтых тусовак некалі наведвалі "Крыніцы". Прыйшоў час, усе разышліся па сваіх лядах і... пачаўся актыўны працэс беларусізацыі мясцовых культурных і духоўных нішаў. Зусім нядаўна былі адзіны тэатар-студыя "Зьніч". Але Сяргей Анішчанка (Аніса) і Сяргей Хамякоў (Ален) штосьці не падзялілі і апошні пакінуў студыю. Зьявілася "Беларускае шоў" Алена. Цяпер у Наваполацку дзьве арганізацыі наладжваюць канцэрты, фэстывалі, запісваюць магнітаальбомы, рыхтуюць маладых сьпевакоў. Канцэртаў і фэстываляў у горадзе павялічылася больш, чым у два разы. Крыўды хутка забыліся. Сёньня "Зьніч" і "Беларускае шоў" плянуюць агульныя акцыі. Гэтаксама хутка зьнiклі непаразуменьні паміж мясцовымі сябрамі СП і сябрамі ТВЛ. Цяпер у Наваполацку зьявілiся дзьве рэдакцыі двух літаратурных часопісаў: "Калосьсе" (ТВЛ) і "Край" (Полацка-Глыбоцкая філія СП). І ў кожнай процьма матэрыялаў. Час ужо і трэцяму часопісу нараджацца. Спробы Навума Гальпяровіча рэанімаваць "Крыніцы" ні да чаго не прывялі. Як кажуць старажытныя грэкі, у адну раку не ўвайсьці два разы.

❑

Васіль Дзехцяроў у 80-х працаваў брыгадзірам фармоўшчыкаў на наваполацкім заводзе ЖБВ. Перад сконам СССР, калі камуністы пачалі губляць глебу пад нагамі, дзеля падвышкі аўтарытэту партыйнай арганізацыі Васіль быў "кааптаваны" ў парткам мясцовага будаўнічага трэсту. Яму нават выпала крыху пакіраваць камуністамі-будаўнікамі. Падчас леташніх парлямэнцкіх выбараў у наваполацкай газэце "Знамя новостройки" ён жорстка выказаўся наконт камуністычных гульняў. Былыя сябры з партыі абрынуліся на яго са зласьлівымі ўшчуваньнямі. Крытыку сяброў не прыняў да ведама. А нядаўна прынес мне касэту расейскага гурта "Лесоповал" і папрасіў запісаць на яе Данчыка. "Надакучыла ўся гэтая расейская дурата", — сказаў нязбытны сакратар парткаму беларус Васіль Дзехцяроў.

*Ганна Матусэвіч*

# Койданаўскі дыярыюш



8.04. Езьдзіла ў вёску. Як марудна яны прачынаюцца! Але мы змушаны іх раскатурхваць, бо безь іх усё адно нікуды ня зможамісьці. П'юць гарэлку й закусваюць мясам. Радуюся, што частуюць дзяцей разынкамі, ды не "изюмом".

А ў гімназіі зноў канфлікт. Гвалтуюць сына Андрэсм Платонавым. У парадным дзёньніку каторы ўжо раз зьявіўся запіс: "Не готов к уроку!" Даю хлопцу параду: Ветліва растлумач настаўніцы, што кніга для цябе нецікавая, нудная, незразумелая. Прапануй ёй наўзамен "Маленькага прынца" Экзюпэры. Падсунула цяпер Булгакава "Майстар і Маргарыта". Чытае.

10.04. Дазволіла сабе купіць аж тры танныя батоны па 2500. Міколка еў, тады закрычаў: "Мама, тут чарвяк! І ніткі! І валасы!"

11.04. Прачнулася ўначы з удзячнай думкай пра маміна сэрца. Колькі не прышчаплялі яму чужога, наносьнага, яно ўсё ж выжыла і цяпер, у горы, усіх прыцягвае да сябе.

... Параўнала ўчора вершаваныя прысьвячэньні памяці Сяргея Палуяна: Купалава і Максімава. Ах, Максім!..

12.04. Схапіла "НН" проста з аддзелу сартоўкі. Пайшла зь ёю да пракурора. Дарогай успаміналa. Я прыходзіла да яго й раней. У невялічкім холе мы сядзелі ўдзьвюх: я і непісьменная, відаць, бабулька з-пад Бранску. Яна так хораша цекала па-нашаму. Расказвала пра сваю маму-нябожчыцу. Жылі яны надта бедна, слухаліся мамы. А мама іх вучыла верыць у Бога. О, як яны глядзелі на маму! Мама засьмяецца — ім радасьць на цэлы дзень, дарма што галодныя. Пракурора бабулька вельмі хваліла. У ейнай справе ён дапамог, хоць дакумэнты былі на Браншчыне. Ён сьпісаўся, дастаў, зрабіў усё, што ад яго залежала. Я ведаю, што ён і цяпер зробіць усё, што ад яго залежыць. Мне ён сказаў, што ў мяне талент, відаць, ад Бога, і што трэба сесьці пісаць кнігі. Я не спакусілася, наадварот, адчула нуду, як 13 гадоў таму, калі муж дакляраваў мне шчасьлівае каханьне безь дзяцей.

А мы самі што ж? Я пайшла да Галі Амбражэвіч. Яна дамывала падлогу і сама блішчэла, як тая падлога. І муж яе, кажа, вясёлы ў Навінках ляжыць... Алкуль такія зьмены? У першы раз яна, сумная, казала, што ўсе родзічы настойвалі на незалежнай экспэртызе ў Менску. Пасьля іх угаварылі на Навінкі... Я папыталася ў яе, ці дарые яна Камушэнку за мужа?..*

13.04. Даліся мне гэтыя камплексанты ў знакі! Муж моцна ўпневаўся на мяне за мае пісаньні. Ня есьць, ня п'е, не гаворыць. Згатавала бульбу і, каб дабро не прападала, занесла Мішку на талерцы. І яшчэ ў прыдачу вядро негатаванай дала. І ноч прайшла, а гнеў усё не праходзіць. Адасобіўся на кухні, майструе паліцу. Званок у дзьверы. Алчыняе — Мішка.

— Прынёс гарэлку.

Дзьверы ледзь не прышчапілі Мішкаў нос. Званок, яшчэ званок, яшчэ!

— Пусьці!

— Не пушчу! Я работаю! Піць ня буду!

— Я ж прынёс талерку!

— А я думаў, гарэлку...

Па мястэчку йдзе доктар, ведучы сына за ручку.

— Ты не смотри, чтобы было удобно, а чтобы красиво.

— И модно, — фальшывіць усьлед дзіцятка.

14.04. Усчала сварку, усунуўшы свой язык туды, дзе трэба маўчаць. Як быццам словамі нешта некаму можна растлумачыць!

15.04. "Изуверство принадлежит к самым ярым проявлениям жестокости. В Космосе нет более разрушительных явлений..." (Мозаика Агни Йоги).

Калі я, перапрасіўшы пракурора, як і цяпер перапрашаю чытачоў, пераказала яму словы, што кінуў Камушэнка Амбражэвічу: "Ты ў гаўне нарадзіўся — у гаўне й памрэш!" — пракурор сьцьвердзіў, што гэта "изуверство".

16.04. Нешта дрэнчыць усярэдзіне... Можа тое, што мела грошы, ды ня дала жабракам? А калі ня дала беднякам — грошы пайшлі крумкачам. Ужо колькі разоў заўважала...

У інтэрнаце павесілі страшную паперу "о правилах проживания в общежитии".

Кажуць, у гаркаме судзілі "маласмейкі". Нас зноў засудзілі.

17.04. Тое, што здарылася з Амбражэвічам — мела здарыцца з прарабам Куксікам Алегам. На яго таксама павесілі даўгі, ужывалі псыхалягічны шантаж. Галя яго адратавала. Выцягнула яго з праўдзівага пекла СГП-42, разьвяліся, ён уладкаваўся на працу дзесьці ў Менску. Камушэнка цяпер пагражае выселіць і разьвядзёных. Майму мужу за "дзень Амбражэвіча" паставілі прагул, нагрузілі малапрадуктыўнай працай, што й граша не заробіш. Мала "падбрэхіваў" — сам начальнік цкус: "Я бы цебя атправіў кой-куда!" Паставіў Лобачыху за наглядчыцу, хто ў колькі на працу прыходзіць. Мужу баліць галава, цісьне сэрца, тэмпэратура. Ён глытае таблеткі і йдзе на працу.

... Зноў непаразуменьне ад маіх пісаньняў. На гэты раз праз суседку. Аж тынк зь дзьвярэй пасыпаўся! Ці тое яшчэ будзе, любыя мае! Каб вырвацца з гэтага пекла, патрэбная мужная, поўная праўда. А дзе яе ўзяць? Толькі з душы, словы тут бясьсільныя...

18.04. Перад суседам, які палічыў сябе абражаным маёй публікацыяй, я стала на калені.

19.04. Адна... Толькі Бог са мною. Лёгка, сьцюдзёна, сьветла, як у маленстве...

21.04. Пазьняк сказаў: "Зло павінна быць пакаранае, інакш яно становіцца нормай". І гэта ёсьць фанатызм. Адам Глёбус сваімі творамі фактычна робіць злое дзеяньне, але яно спрыяе эвалюцыі. Назваў жа ён па-беларуску тыя часткі (інтымныя) чалавечага цела, на што ніяк не адважваліся казённыя ханжы.

... Сэрца чалавечае — гэта касьмічны магніт. Такі магніт ёсьць ва ўсім: у камені, у дрэве, у плянэце, у Космасе. І птушкі ляцяць, і перасяленьне народаў у старажытнасьці адбывалася на магніт.

... Заўсёды знойдзецца нехта адзін, хто возьме на сябе адказнасьць.

... Ня страшны найпраставы вораг Сьвятла. Страшныя шэрыя пасрэднасьці, застой, нуда.

... Каштоўнае ўсё, што чалавек зробіць сам.

... Раней мне падабалася Максімава "Пагоня" болей у выкананьні Мулявіна, чым Данчыка. Калі ж абудзілася мая душа, я зразумела, што Данчык сьпявае душою, змушае да непасрэднага дзеяньня, а Мулявін запрашае адпачыць, як у тэатры.

... Кожны з нас выконвае свой загад. Таму трэба рабіць тое, што хочацца, бо гэтага хоча наша душа.

21.04. Віталік учора завёў дзёньнік.

... На вакзале сустрэліся простыя людзі. Я люблю простых людзей.

22.04. Прачнулася ад таго, што нейкі мужчына невысокага росту падаваў мне руку, гукаючы моцна, як глухой, у самае вуха: "Добры Вам дзень!"

... У вёсцы працую. Вельмі марудна ссоўваецца цяжар з сэрца. Хочацца пабыць адной, і няма як. Усе падыходзяць да мяне й катуюць пытаньнямі: "Што з табой?" Ня вытрывала, расплакалася. Мая любая дачушка, мая Веранічка зноў выратоўвае мяне. Заплюшчыла вочы — на Нябёсах на розных тлах рознымі колерамі сьвецяцца-гараць — 222.

23.04. Зь вялікімі намаганьнямі вырвалася зь вёскі, знайшоўшы зручную прычыну, што мне трэба паліць памідоры. Як хораша сьцюдзёным ранкам імчаць на роверы насустрач сонцу! Як цудоўна, што можна разьнявольвацца й пабыць самой сабою! З Богам пагаварыць, памаліцца шчыра... " Дзьве жанчыны — "знешне набожная" і "знешне бязбожная" — крычалі на мяне з аднолькавай злосьцю, што я "бальная". Койданаўскай пратэстантцы, якая сама падышла да мяне, я давала пачытаць "мае нумары" "НН". Мне патрэбная была падтрымка. Яна сказала, што напісана надта добра, і што мне можна пісаць кнігі, але каб я пакінула гэтыя пісаньні ў газэту, бо мяне засудзяць, і ніхто не пашкадуе. Яна яшчэ казала, каб я малілася. Я ёй падзякавала і папрасіла, каб яна болей не прыходзіла да мяне.

... Людзі не разумеюць, што малітва бывае розная, у любым месцы: калі складаеш вершы, калі майструеш паліцу, калі слухаеш птушак (сьпеў птушак — гэта іхная малітва), калі сьпяваеш, — словам, той псыхічны стан, калі сэрца перапоўненае радасьцю і ўдзячнасьцю Богу. Вялікі грэх сьмяяцца з малітвы, якой бы першабытнай яна ні была.

... Я нікога не зьбіраюся судзіць. На гэта ёсьць Бог. Я толькі "падала на суд" — паказала падзеі, як яны разгортваліся ва ўспрыманьні маёй душы. Судзіць жа свайго бліжняга чалавек ня мае права затым, што ня ведае, што адбываецца ў чужой душы. Гэта ведае толькі Бог. Таму я прашу, каб людзі даравалі мне і ня мелі на мяне крыўды. Галю Амбражэвіч прашу асабліва. І няхай усемагутны Бог дасьць людзям паразуменьня і шчасьця.

* Гэтая гісторыя распавядалася ў папярэдніх нумарах "НН" (заўвага рэдакцыі).

*Койданава*

*Зьміцер Бартосік*

# ВЫХАД У ГОРАД



Дзень адзначыўся праводзінамі сябра. І ўсё. Чамусьці, чым далей, тым меней сьлядоў пакідаюць дні. Мне здаецца магчымым узгадаць усе свае пяцьсот віленскіх дзён, хоць яны мала чым адрозьніваліся (хіба што вуліцамі, на якіх я гуляў у гаспадара), а вось з апошніх трохсот шасьцідзесяці пяці — дай бог успомніць дзясятак. Няўжо рэч у месцы знаходжаньня? Так і цягне апраўдацца роднымі савецкімі фасадамі, стаць гаспадаром якіх так мала каго цягне ў гэтым горадзе. Вось яшчэ адзін сябра зьехаў у Менск. Пакінуў Гомель без шкадаваньня. Ад чаго зноў да мяне вярнулася адчуваньне пасажыра на прамежкавай станцыі, які спазьніўся на свой цягнік. І вымушаны з-за лішку часу скарыстаць "ВЫХАД У ГОРАД". Шукаць для памяці спажыву. Занятак тут няпросты і, можа, таму больш цікавы. Гэта, як збочыць з тысячу разоў прахоџжанай вуліцы й здраньцець ад першага сутыкненьня з тым, чаго ніколі не заўважыў бы на фасадным яе баку, — нетынкаваныя муры пад іржавымі дахамі з хай не стогадовымі, але сапраўднымі сьлядамі часу... *

Вось ужо чацьверты год гомельцы, як сапраўдныя тэатралы, могуць выбіраць, у які з тэатраў накіравацца ўвечары — у "Незалежны" ці наадварот? Сёньня гэтая дылема паўстала больш інтрыжна — адначасова ў абодвух тэатрах прэм'еры. Розныя, як самі тэатры. У абласным даюць п'есу мясцовага драматурга Васіля Ткачова, у "НТ" — чэскага пісьменьніка Паўла Когаўта, якога й на радзіме нельга назваць мясцовым. У першым спэктакаль на "роднай мове", у другім — на "нероднам". У адным дзея адбываецца ў забруджанай радыяцыяй вёсцы (г. зн. паблізу й нядаўна), у другім — у невядомай краіне нібыта ў наш час.

Зь першых рэплікаў Іванова (выканаўцы ролі галоўнага пэрсанажа ў п'есе Ткачова), гэткага сівога вэтэрана з "калодкамі", я пачаў нэрвавацца. У чаканьні пачуць маналёг станоўчага героя пра родную зямельку, дзе кожная травінка... Чаканьні мае апраўдаліся, і настрою гэта не падняло. Маўляў, зноў — калі па-беларуску, то нейкая калгасная байка. Я азірнуўся навокал ды сабе на зьдзіўленьне пабачыў адно задаволеныя твары гледачоў. Ім гэта падабалася!

Сярод радаснай ды ўдзячнай публікі я глядзеўся, напэўна, хворым на язву крытыкам, са сваімі язьвеннымі думкамі. "Ссумаваліся, небаракі, па родным мастацтве. Як, зрэшты, і акторы, што дарваліся нарэшце пасьля гэтых Шоў ды Саганаў да сваёй драматургіі — з такім запалам яны гулялі"! Публіка ажывілася — на сцэне зьявіўся адмоўны герой. У сапраўдным гумовым засьцерагальным гарнітуры ды газаахоўніку ён выглядаў страшыдлам зь дзіцячай казкі. Заенчыла чыёсьці дзіця. Канфлікт, адным словам, насьпяваў. Я заўважыў зьзяючы непадалёк ад мяне твар драматурга Ткачова, і самому зрабілася так лёгка й радасна. І за тэатар, і за зямельку, і за Чарнобыль. Мае крытычныя думкі таксама аздараўіліся — маўляў, занадта моцныя ў нас традыцыі батлейкі. Як у японцаў — Кабукі. Толькі тыя, у адрозьненьне ад нашых, да прафэсійнага тэатру яшчэ не дарасьлі. Між тым на падмостках, згодна з тэатральным законам, стрэльба стрэліла. Станоўчы й сам герой, што амаль дзьве гадзіны трымаў абарону ў роднай хатцы, не жадаючы пакідаць родны кут, паў ад рукі марадзёра. Дабро ўсё ж не перамагло зло, як павінна было б быць у батлейцы. Можа й маюць рацыю японцы.

Як лёгка, здавалася, "Незалежнаму" быць у выйгрышы. Не бяры мясцовых п'есаў. Не будуй на сцэне калгас. Не гуляй штодня, як па заводзкім графіку. І будзе табе й набітая заля, і прыстойная рэпутацыя, і пачуцьцё посьпеху. Толькі не было б яго, калі б усё так лёгка. Чацьверты год існуе ён насуперак ды ўпоперак. Безграшоўю, абыякаваасьці гораду (не гледача), адсутнасьці буфэту й праграмак. А я ўсё роўна буду раіць гомельцам і гасьцям гораду ісьці ў "НТ". Не б'ючы сябе па грудзіне — бацяна паставіў! Калі й захочаце, не растлумачу —пра што ён там паставіў. Нейкі абсурд з шэкспіраўскімі жарсьцямі на тле партрэту Гітлера (амаль што пэрсанажа). Я зьдзіўляўся. Во штука! Сюжэт, пэрсанажы, месца дзеяньня — усё нерэальнае, усё выдуманае. І разам з тым усё, на што пакутавалі героі Когаўта, тычылася мяне й менавіта мяне. Ужо на другім спэктаклі я мог сабе дазволіць разьняволіца й крытычна пасмакаваць нюансы гульні й рэжысуры. Але гэта менш цікава, чым не задумваючыся што да чаго, не зьвяртаючы ўвагі на залю, зьдзіўляцца толькі душою. Разгайдаць яе эмоцыямі, даўшы волю думкам. Ня толькі пра ўбачанае й ня толькі пра прыемнае. Але пакуль свабода выбару ў нас ёсьць.

Зьбіраючыся на фэстываль гітарнай музыкі (які праходзіў у горадзе другі раз), я менш за ўсё настройваў сябе на нейкае дзіва. Але колькі ж разнамаснай багемнай моладзі ў "такім пралетарскім" горадзе! Нейкія юнакі ў мушкетэрскіх капелюшах. Дзяўчаты ў індзейскіх швэдрах. Бароды мастакоў, пасмы іхных німфаў, кепкі "наблатыканых" тынэйджараў, яркія гальштукі піжонаў, — усё гэта глядзелася амаль што карнавалам пасьля панылых твараў штодзённых мінакоў. Прыемна, хоць і ня дзіўна, усьведамляць што прымусіла іх пакінуць свае майстэрні, каварні, скляпы. Напэўна, самы распаўсюджаны й касмапалітычны інструмэнт сьвету. Чый сылюэт, падобны на васьмёрку, зь дзяцінства прыцягваў нас. Шмат каго з нас бацькі гвалцілі гамамі, пасажамі на баянах ды віяланчэлях. І толькі акорды шасьці- (усё радзей сямі-) стрункі нашы пальцы прымалі як належнае. Праз брынканьне ў дварах дзяцінства, ня ўсе дайшлі да Вівальдзі й Гомэса. Але хацелі — амаль усе. Гітара застанецца найлепшай вучыцелькай эстэтыкі й прыгажосьці.

Увесь дзень у горадзе панавала недарэчная нэрвовасьць. З нагоды прыезду аднаго чалавека. Праз кожныя сто мэтраў — мільтон. Кажуць, іх нават прымусілі чысьціць сьнег на тратуары каля нейкай прахадной. Нашы мужныя капітаны ды лейтэнанты, думаю, вельмі арганічна й своечасова з дворніцкімі рыдлёўкамі ды мётламі.

Некалькі вуліц перакрылі і я трапіў у "корак". За шкламі аўтамабіляў перакошаныя твары кіроўцаў нешта артыкулявалі. Думаю, словы пра прэзыдэнта й ня думаю, што словы цёплыя. Я ж узгадаў першы візыт, гады два таму. Тады ён не называўся яшчэ бацькам. Памятаю, што пайшоў зь ім на сустрэчу толькі з-за аллегласьці (манэж "Дынама" ў мяне пад носам). На вялізнай трыбуне ўладкавалася чалавек сто пяцьдзесят-дзьвесьце, што ніяк не стасаваліся зь іміджам госьця як народнага ўлюбёнца. Пераважна прыйшлі людзі старыя ды нямоглыя. Мне стала крыху шкада выступоўца — столькі шуму вакол і "тры калекі ў залі". Ён жа падаваўся простым "як тры капейкі". Гэткім "сваім мужыком" падаваўся, зь якім "на Вы" гучала б недарэчна. Гатовым узваліць на свае плечы прафэсійнага грузчыка ўсе нашыя праблемы ды балячкі. Гатовым нават "нямножка" павучыцца, калі чаго ня цяміць. Адным словам, дзеля нас гатовым на ўсё. Я нават стараўся асабліва не засмучацца праз месяц, калі ён стаў першаю асобай. Зьніклі, праўда, апошнія ілюзіі наконт мудрасьці нашага люду.

Я злавіў сябе раптам на думцы, што прайшло ўсяго паўтары гады ягонае ўлады. А што б мы ўсе безь яго рабілі! Перад кім яшчэ можна так прагінацца, і наадварот — выпроствацца? Ж павінны быць удзячныя яму пазьнякісты за вернуты сьцяг. Колькі вольнага часу мелі б "свабодацы", ня будзь яго. І яго не магло ня быць! Мы яшчэ доўга будзем "апяваць" яго, прагназаваць хуткі каляпс ды прысьпешваць у думках крах рэжыму.

Пабачыў сваю фізіяномію ў тэлепраграме "Нірэянавіны" і ўзрадаваўся як дзіця. За сябе (як-ніяк прэзыдэнта падкалоў) ды за "Нірэю" (знайшла чым сустрэць госьця Гомельшчыны — маімі кліпавымі куплетамі). Як мала нам трэба для шчасьця — жыві, Аляксандар Рыгоравіч!

Дзень Канстытуцыі. Ісьціна не знаходзіцца ў спрэчках. У спрэчках губляецца час. Цэлыя тры гадзіны штосьці даказвалі, у нечым пераконвалі, у чымсьці абвінавачвалі адзін аднаго гожыя маладыя дэмакраты й трухлявыя, пляшывыя камуністы. (Чамусьці ніколі не сустракаў камуністаў з прыемнымі тварамі. У маладых леніцаў, дарэчы, фізіяноміі яшчэ больш гідотныя, чымся ў іхных бацькоў і дзедаў). А мы зь Мельнікавым, значыцца, ладзілі музычныя паўзы — сьпявалі паміж гарачымі раўндамі свае ня надта патрэбныя тут песенькі.

Тры гадзіны псаваньня маладых нэрваў ды старых сэрцаў скончыліся надзвычай дзіўнымі адкрыцьцямі. Што адныя памруць камуністамі, а другія застануцца вернымі дэмакратамі. Ну памруць адныя, ну застануцца другія. А ці знойдзецца ісьціна, дзе губляецца час? Ці ня лепей ня зьмешваць кампаніі?

Во дзіва! Званок у тэатар ад маці маёй колішняй вучыцелькі-віялянчалісткі — ці не засталося ў мяне інструмэнту? Быццам не пятнаццаць, о божа, гадоў прайшло, а пару тыдняў. Сюр поўны. Яшчэ б хто-небудзь з Усьць-Каменагорскага дзіцячага садка панепакоіў, і можна адчуць сябе пастарэлым адразу гадоў на дваццаць. А я сапраўды некалі граў на віялянчэлі.

Паглядзеў "Залатое вока". Эфэкт заеджанага "Ну, погоди!". Са скончэньнем "халоднай вайны" 007 выглядае ненатуральна. Новы актор тым больш не паратунак (іншая рэч — Шон Конэры). Дзеяньне, вядома, — у новай Расеі. Герой з каменным тварам, на танку тараніць сабе шлях праз піцерскія сьцены, укладваючы стосы трупаў у форме жаўнераў СА. Паглядзі я гэта гадоў дзесяць таму, абразіўся б, напэўна. А цяпер... Не пра нас. Дый страшны мядзьведзь расейскі ператкварыўся у дзіравае пудзіла, здольнае напалохаць адно прыдуркаватага дзіцёнка.

Даўно ня памятаю, каб за паўгадзіны да пачатку набываў квіток з рук. І гэта на канцэрце непрафэсійнага артыста, улюбёнца мясцовых студэнтаў, героя TV "Нірэя" Лёліка Каструлькіна. "Тры гадзіны гістэрычнага рогату", як абяцала афіша, адбыліся.

Праблема ў нацыянальных стратэгаў — знайсьці ці прыдумаць для Гомеля сваю ролю ў беларускім кантэксьце. І яна ўжо пачынае патроху вырашацца. Якая роля можа быць у самага сьпякотнага гораду краіны, дзе дзясятак гадоў таму ўлетку маскоўскія ды піцерскія нумары курортнікаў былі ня рэдкасьцю. Якая роля можа быць у галоўнага порту, адкуль калі й ісьці ў Кіеў, дык толькі па вадзе. А дзе Кіеў, там і Адэса. Я памятаю машыну аварыйнай службы з надпісам на борце: "Хутка паедзеш — павольна павязем". Хочацца думаць — гэта не апошняя хохма. Ня ўсе ж жыды яшчэ зьехалі.

На выставах, што ладзяцца ў выстаўнай залі краязнаўчага музэю Тацянай Ліцьвінавай, рэчы, якія ляжалі далёка ад вачэй, ня тое што ажываюць, а набываюць нейкі новы, таямнічы сэнс. На выставе старых фатакартак я ў гэтым зноў пераканаўся. Дзякуй богу, мяне тады ня было — ня раз лавіў я сябе на гэтай думцы пры сустрэчы з фатаграфічнымі адбіткамі жудасных часінаў. А цяпер, пераходзячы ад здымку да здымку, на якіх шчасьлівых пачатак і стагодзьдзя, і прамысловага гораду, узіраючыся ў бесклапотныя ці засяроджаныя ў чаканьні "птычкі" твары гомельцаў, мне, чамусьці, не хацелася туды, да іх. Хоць так прывабна выглядала імпэрыя перад сваім канцом. Як на гэтай выставе — старыя афішы, прыгожая мэбля, старадаўнія люстры. Якім усё роўна, каго адбіваць. А мне ўжо ня ўсё роўна, дзе адбывацца. І прыгожае мястэчка ў расейскай правінцыі няхай застанецца на пажаўцелай паштоўцы. Прыемна воку азірнуцца, што ні кажы.

25.03. Злавіць таксоўку. Пераплаціць у гонар Сьвята. Трохі спазьніцца. На ганку пад Сьцягамі папаліць. Сумесь дыму й веснавога паветра. Прайсьці ў залю, поўную прыгожа апранутых, прыветных людзей. Узьняць келіх шампанскага за Сакавік ды, пацягваючы свой кактэйль, пераходзіць ад кампаніі да кампаніі ў пошуках сваёй. Перакіўнуцца са Старшынём, перамігнуцца з маладзенькай нацыяналістачкай ды, знайшоўшы нарэшце сваіх, пайсьці па адталым горадзе да каго-небудзь сьвяткаваць Сьвята.

Але ж трэба адзначыць сур'ёзную дату. Гэта значыць, сядзець у задушнай актавай залі ды слухаць усялякую нудню пра тое, якія мы былі магутныя й што някепска было б зноў вярнуць славу продкаў. На камуністычных сходах, думаю, тыя ж самыя прамовы, з розьніцай толькі ў часах магутнасьці. А час усё той жа, што і дзяржава. Са сваімі сьвятамі. І бяз нашых датаў.

Расейскія словы захрасьлі ў маім горле, язык загамаваўся. Стала, можа, упершыню сорамна размаўляць на сваёй роднай мове з чалавекам, які зусім невыпадкова зайшоў у аддзел інфармацыйных тэхналёгіяў. Чалавекам, гадоў на дзесяць маладзейшым за мяне. Які шчасьлівец! Дзесяць гадоў у запасе! Паважна гледзячы на мяне (пазнаў!) ды прагна пагартаўшы дарагога Глёбуса, ён сыйшоў са стосам старых нумароў "НН". Пайшоў наганяць страчанае. І ён, як мяне запэўнілі, не адзіны малады чалавек, які прыходзіць сюды набыць Ніву ды Бонду. Адкуль толькі даведваюцца! Мне стала прыемна й спакойна за яго, за іх. Яны гэтае страчанае нагоняць. Пакуль я буду страчваць.

№ 6/96
29 красавіка — 5 траўня

ШТОТЫДНЁВЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ ДАДАТАК ДА ГАЗЭТЫ НАША НІВА

# ІНФАРМАТАР
НАША НІВА

Новае слова на рынку беларускае прэсы - штотыдзень 12 палосаў патрэбнае інфармацыі

ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНЕ BELARUSIAN PUBLIC RELATIONS ASSOCIATION





Лік беспрацоўных, якія згубілі працу з ініцыятывы адміністрацыі, узрос у большай ступені, чым лік тых, хто згубіў працу з уласнай ініцыятывы.

Кожны чацьверты беспрацоўны выйшаў на рынак працы без прафэсіі, досьведу працы, ці страціўшы сваю кваліфікацыю ў выніку доўгага перапынку. Дзеля падвышэньня канкурэнтаздольнасьці гэтай групе беспрацоўных патрабуецца прафэсійнае навучаньне, падвышэньне кваліфікацыі ці стажаваньне.

Прааналізаваўшы структуру беспрацоўных паводле катэгарыйнай прыкметы, можна зрабіць наступныя высновы: вызваленыя работнікі працягваюць заставацца асноўнай крыніцаю беспрацоўя.

**БІРЖА ПРАЦЫ стар. 8**



У гэтым нумары "Інфарматар" у рубрыцы **РЫНАК** прэзэнтуе кошты на будаўнічыя матэрыялы ў краіне. ***Глядзіце старонку 9***

***Фэдэральная рэзэрвовая сыстэма ЗША распаўсюдзіла паведамленьне пра тое, што з 1996 году ва ўжытак будуць выпушчаны новыя віды купюраў. Першымі будуць выпушчаны банкноты вартасьцю 100 даляраў. Зьвяртаем Вашу ўвагу на тое, што адначасова з новымі купюрамі будуць хадзіць даляры старога ўзору.***

***У 1996 годзе Злучаныя Штаты Амэрыкі распачнуць увядзеньне грашовых знакаў з новымі сродкамі больш высокай абароны. Гэтыя сродкі дазволяць, наколькі магчыма, адмежаваць валюту ЗША ад падробак, якія вырабляюць з дапамогай дасканалае тэхнікі.***

***Старыя грашовыя знакі ЗША не падпадаюць пад зьняцьце і дэвальвацыю. Пры паступленьні ў Фэдэральную рэзэрвовую сыстэму яны будуць замяняцца на банкноты новага ўзору. Усе старыя і новыя грашовыя знакі ЗША захоўваюць свой поўны кошт.*** СПАЖЫВЕЦ стар. 11









Рамонтная арганізацыя ажыцьцяўляе рамонтна-будаўнічыя працы са сваіх матэрыялаў ці з матэрыялаў замоўцы і адказвае перад замоўцам за якасьць працы і захаваньне вызначаных тэрмінаў рамонту. У кожнай жыльлёва-эксплюатацыйнай службе пры дыспэтчарскіх і аб'яднаных дыспэтчарскіх службах, а таксама пры вытворчым аддзеле аб'яднаньняў створаныя пункты прыёму замоваў на зьдзяйсьненьне бытавых паслугаў насельніцтву. Пры гэтым пункты прыёму замоваў маюць навочную інфармацыю й неабходную дакумэнтацыю.

*Адрэсы гэтых службаў мы падаем на* **стар. 10**

## КОШТЫ НА РЭКЛЯМУ Ў ГАЗЭЦЕ "НАША НІВА" І ІНФАРМАЦЫЙНЫМ ДАДАТКУ "ІНФАРМАТАР"

| | "НАША НІВА" | "ІНФАРМАТАР" |
|---|---|---|
| Базавая стаўка ч/б | $0,5 см.кв. | $0,4 см.кв. |
| Замова ў рэклямным бюро | $0,5 см.кв. | $0,4 см.кв. |
| Замова праз тэлефон | $0,6 см.кв. | $0,5 см.кв. |
| Першая паласа | ч/б – $1 см.кв. Колер (ня меней за 100 см.кв.) – $2,5 см.кв. | ч/б – $0,9 см.кв. |
| Радковая рэкляма на паласе "Біржа працы" | | 5.000 руб. (зьмяшчаецца запар у двух нумарах) |
| Колер | ня меней за 50 см.кв. – $1 | ня меней за 20 см.кв. – $1,5 см.кв. |
| TV–праграма | | ч/б – $1 см.кв. колер – $1,5 см.кв. (ня меней за 50 см.кв.) |

Замовіць рэкляму можна праз тэлефон 36–76–75 з 10.00 да 20.00 штодня, ці на адрасе: вул. Пуліхава, 29, кв. 61 да 18.00. Пры гэтых коштах ня ўлічваецца выраб арыгінал-макету.

**Падпісны кошт 12.000 на месяц**
**36.000 на квартал**

*** Прадугледжаны скідкі на колькасьць выхадаў і плошчу рэклямных аб'яваў**

Падпіска на газэту
**"НАША НІВА"**
праз пошту і "САЮЗДРУК"
**індэкс 63125.**
**Падпіска празь недзяржаўную сетку дастаўкі**
тэлефон 29-22-10 (Цыбульскі Леанід).

Працяг са старонкі 6

вах, — пастанавіў брытанскі суд. 85-гадовы Серафіновіч абвінавачваецца ў забойстве трох габраяў у часе гітлераўскай акупацыі савецкае Беларусі. Ухвалены ў 1991 г. пад націскам габрайскіх асяродкаў закон дазваляе судзіць за ваенныя злачынствы, учыненыя па-за тэрыторыяй Вялікабрытаніі асобамі, якія на час злачынства ня мелі брытанскага грамадзянства.

*(gw)*

## Мода

### НАЦІСК З УСХОДУ

У Вільні скончыўся традыцыйны, ужо пяты, фэстываль моды "In Vogue", які ладзіць тут сусьветна вядомы часопіс. На "In Vogue, Vilnius-96", прыехалі кіраўнікі кампаніі, рэдактары часопіса, а таксама дэлегацыі зь Вялікабрытаніі, Італіі, Францыі. Традыцыйна былі прадстаўленыя калекцыі ня толькі з Балтыі, але і з "краінаў СНГ". Сэнсацыяй сталі калекцыі з Украіны. Першае месца занялі А.Петрушэнка і Ю.Зімяцін з Кіева, трэцяе — Р.Мацкевіч з Данецку. Другое месца — А.Бірукоў з Іванава (Расея). Падобна, Усход усё ж мае шанцы сысьціся з Захадам. На "In Vogue".

Фэстываль атрымаў надзвычай люксусовую абляможку. Не абышлося без банкіраў і палітыкаў. Чэслаў Юршэнас, старшыня Сэйму і адзін з самых прыкметных госьцяў шоў, заўважыў: "Хоць у Сэйму вельмі вялікія правы, але ня ён дыктуе моду ў Літве..."



### ГІМН ВЭНЭЦЫЯНСКАГА КАРНАВАЛУ

Таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім. Інжынэр-фартыфікатар Леанарда да Вінчы быў і мастаком, і байкапісцам, кампазытар Агінскі — партызанскім камандзірам, Каліноўскі пісаў вершы. У свае 72 гады геніяльны кутур'е П'ер Кардэн зьдзейсьніў сваю даўнюю мару, напісаўшы гімн вэнэцыянскага карнавалу. "Мне хацелася даць слова старасьвецкім палацам ды каналам Вэнэцыі", — распавядаў маэстра на прэзэнтацыі кампакт-дыску. Ён сам аплаціў усе выдаткі і спадзяецца, што простыя словы і лёгкую мэлёдыю гімну будуць сьпяваць паўсюль — ад Парыжу да Вільні.

*Сяргей Харэўскі, Вільня*

## Сьвет

**ВАЕНШЧЫНА.** У прэсу прасачылася сакрэтная інфармацыя пра тое, што Расея бу-

ны ваенны комплекс. Як паведамляе газэта "Нью-Ёрк Таймс", да яго будуць падведзеныя аўтамабільная шаша ды чыгунка. Амэрыканскія экспэрты лічаць, што гэты комплекс можа мець вельмі шырокае прызначэньне: штаб для кіраваньня ядзернымі сіламі, а можа й завод для вытворчасьці якіх сакрэтных відаў зброі.

Газэта цытуе словы некаторых расейскіх экспэртаў, якія сьцьвярджаюць, што будаўніцтва пачалося яшчэ за Брэжневым. Мяркуючы з маштабаў будаўніцтва, гэта сапраўды нешта важнае і надта дарагое. І адкуль толькі грошы бяруць? Можа гэта тыя нядаўна вылучаныя амэрыканцамі 10 мільярдаў даляраў фінансавай дапамогі?

**ВАЛЭНСА.** Тэлевізійныя навіны многіх краінаў паказалі, як былы прэзыдэнт Польшчы Лех Валэнса прыехаў на Гданьскую суднаверф, дзе ён калісьці працаваў і працягвае лічыцца электрыкам, каб атрымаць зарплату. Валэнса нават пагражаў вярнуцца на былое месца працы, бо яму "няма за што карміць сям'ю".

Але даведаўшыся, што польскі Сэйм прызначыў яму ды іншым былым і будучым прэзыдэнтам пэнсію, вырашыў больш электрыкам не працаваць. Цікава, што пэнсію для яго "выбілі" нялюбыя ПОРПаўцы. А яшчэ адзін былы прэзыдэнт генэрал Войцех Ярузэльскі наагул адмовіўся ад прэзыдэнцкае пэнсіі. Маўляў, яму хапае і генэральскай. Прэзыдэнцкія пэнсійныя грошы ён вырашыў накіраваць на ўтрыманьне архіву.

**ПЭНСІЯ ДЛЯ ПРЭМ'ЕРА.** Кітайскі лідар Дэн Сяапін хоць сёньня можа зьвярнуцца да францускіх чыноўнікаў, каб атрымаць францускую пэнсію. Паколькі з 1921 да 1923 году ён працаваў у розных францускіх кампаніях, то, паводле францускага заканадаўства аб працы, яму налічваюць адпаведную пэнсію.

**ЗАРОБАК ПРЭЗЫДЭНТА.** Прэзыдэнт ЗША Клінтан паведаміў пра памеры сваіх даходаў за 1995 г. Заробак склаў 316.074 даляры. У якасьці падатку Клінтан заплаціў у фэдэральную скарбонку 75.437 даляраў. Паводле сваіх даходаў амэрыканскі прэзыдэнт належыць да так званай вышэйшае сярэдняе клясы. Таго ж палёту і віцэ-прэзыдэнт ЗША Эль Гор. Ягоны даход разам з ганарарам за кнігу "Зямля ў раўнавазе. Экалёгія і чалавечы дух" склаў за мінулы год 235.975 даляраў.

**СЭКТА.** У Расеі сумнавядомую сэкту "Аум Сінрыкё" зьмяніла яшчэ больш небясьпечная "Брахма Кумарэс". Гэтая сэкта марыць зьнішчыць усе іншыя рэлігіі ды ўзьняць свой сьцяг над маскоўскім Крамлём, амэрыканскім Белым Домам і будынкам ААН.

Цэнтар арганізацыі знаходзіцца ў Індыі, а філіі раскіданыя ва ўсім сьвеце. У сваіх лекцыях прапаведнікі "Брахмы Кумарэс" старанна ганьбяць Ісуса Хрыста, будызм ды іслам. Асноўны патас лекцыяў — пагарджаць і перасьледаваць усіх, хто ня зь імі. Вучням абяцаюць, што ў канцы вялікага шляху яны будуць жыць у раі, сярод золата ды слугаў. Астатняе ж насельніцтва зямлі будзе зьнішчанае. Адзін былы ўдзельнік сэкты

сомольской Правды" і распавёў пра тое, што робіцца ў гэтай рэлігійнай арганізацыі. Але свайго імя не назваў, бо яму пагражалі, што за адступніцтва яго знойдуць ды сурова пакараюць.

**МАХЛЯРЫ.** Фінансавыя фірмы-махляры ёсьць і ў Нямеччыне. У Гановэры арыштаваныя кіраўнікі фірмы "Плюс канцэпт". Яны абяцалі высокія працэнты на ўкладаньні ды выгадныя зьдзелкі. Ім паверылі й даверылі свае грошы (болей за 300 млн. марак) блізу 25 тыс. укладальнікаў. Гэтак жа падманвала немцаў і мюнхенская фірма "Нафтавае таварыства", якое выпампавала з кліентаў 126 млн. марак. А фірма "Амброз" з Дуйсбургу намахлярыла 230 млн. марак. Дурылі ўкладальнікаў гэтаксама, як і ў нас, працуючы паводле прынцыпу піраміды. Але ў ФРГ, у адрозьненьне ад нас, за такія злачынствы можна атрымаць да 10 гадоў турмы.

**БАНДЫ.** У Расеі існуе блізу 5,7 тыс. злачынных груповак з агульнаю колькасьцю хаўрусьнікаў болей за 100 тыс. чалавек. Болей за 300 расейскіх крымінальных арганізацыяў маюць трывалыя міжнародныя сувязі. Аб'ём звароту "ценевай" эканомікі Расеі параўнальна складае недзе 40-50% валавага нацыянальнага прадукту краіны. За апошнія некалькі гадоў за мяжу было перапраўлена каля 40-50 мільярдаў даляраў. Аб'ём перапампоўваньня валюты за межы Расеі ацэньваецца ў 12 мільярдаў даляраў штогод.

Гэткія зьвесткі падаў прэсе Фэдэральны дэпартамэнт юстыцыі і паліцыі Швэйцарыі. Тут была ўтвораная адмысловая сьледчая група, куды ўвайшлі прадстаўнікі пракуратуры ды паліцыі. Праўда, за свае ўклады ў швэйцарскія банкі расейская мафія можа не турбавацца, бо таямніца ўкладаньняў застаецца па-старому надзейная.

**АСАХАРА.** У сераду распачаўся судовы працэс над заснавальнікам і кіраўніком японскае сэкты "Аум сінрыкё" Сёка Асахара. Суд пацьвердзіў удзел сэкты ў шэрагу сплянаваных забойстваў, вырабе зброі, наркотыкаў ды атрутных рэчываў. Даказаны таксама ўдзел хаўрусьнікаў сэкты ў тэрарыстычных актаў з выкарастаньнем баявога атрутнага газу зарыну ў такійскім мэтро. Суд над Асахарам нагадвае хутчэй спэктакаль, чымся акт правасудзьдзя. Бо патрапіць на слуханьні можна толькі пры наяўнасьці адмысловага квітка. На 48 наяўных "глядацкіх" месцаў у залі суда прэтэндавала ажно 12 тыс. чалавек. Дзеля гэтага давялося правесьці адмысловую лятарэю, дзе разгуляліся гэтыя 48 квіткоў.

**МІНЫ.** У Жэнэве распачаўся чарговы раўнд канфэрэнцыі ААН аб забароне вытворчасьці ды выкарыстаньні супрацьпяхотных мінаў. Прапануецца абвесьціць іх антыгуманным відам зброі. Бо асноўнымі ахвярамі іх штогод становяцца 26 тыс. чалавек, пераважна мірнага насельніцтва. 30% ад гэтае колькасьці — дзеці. Іх канструкцыя разьлічана не на тое, каб забіваць, а каб калечыць і псыхічна дэмаралізоўваць супраціўніка. Кожныя 30 хвілінаў у сьвеце на такіх мінах падрываецца адзін чалавек. На сёньняшні дзень гэтыя міны расьсяваюцца на вялікіх плошчах проста з самалётаў, і нэўтралізацыя іх можа расьцягвацца на многія гады. Штогод закладаецца блізу 2-5 млн. такіх мінаў. Дзеля поўнага зьнішчэньня іх спатрэбіцца болей за 1000 гадоў. Гэта пры ўмове, што ўсе краіны падпішуць дамову аб іх поўнай забароне. Асноўнымі супраціўнікамі такой дамовы застаюцца Расея й Кітай.

## Музыка

### НЯСПЫННЫ КРОК

***Новае Неба. Go Home. — Менск: "Ковчег", 1995.***




Бывае дастаткова вымавіць тры словы, каб чалавек зрабіўся пэрсонай нон грата для ўласнай дзяржавы. Можа хапіць трох словаў, каб чалавека сталі асьцерагацца нядаўнія прыхільныя знаёмцы. Для Касі Камоцкай такімі словамі сталіся "Прэзыдэнт, ідзі дамоў", — назва й рэфрэн першай песьні альбому "Go Home". Пасьля "Дзяцей чорнага гораду", "НН" і "Сна ў трамваі", гэты альбом "Новага Неба" найменш цэльны паводле сваёй структуры. Эстэцкая патасная песьня "Прэзыдэнт, ідзі дамоў" і падлеткавая пранікнёная "Выгнаны сын" відавочна кантрастуюць з астатнімі шасьцю кампазыцыямі праз сваю музычную немудрагелістасьць. Да таго ж альбом мае "дабіўку" з старых кампазыцыяў, выкананых на канцэрце ўвесну 1995 году.

Часам патас мае права на першае месца. Мы пасьпелі забыцца на патас, але ён зрабіўся вымушана-неабходны. Песьня "Прэзыдэнт, ідзі дамоў" здолела двойчы прагучаць на другім канале дзяржрадыё ў першай палове 1995. Яна выклікала воплескі шмат на якіх канцэртах. Яе словы цытавалі некаторыя беларускія й замежныя газэты. Яе падпявалі 24 сакавіка каля Опэрнага тэатру. Чаму, нягледзячы на прастату мэлёдыі, яна зрабілася хітом? Магчыма, таму, што тэкст зроблены паводле матываў сучаснага менскага гарадзкога фальклёру. Аўтар большасьці астатніх тэкстаў "Go Home" — Міхал Анемпадзістаў. Цяпер яго можна назваць уласным тэкставікам "Новага Неба". Гурт рыхтуе да запісу новы "Народны" альбом, які будзе зроблены цалкам на вершы Міхала. Адну песьню з гэтага альбому — "Дарагія маі масквічы" — можна было паслухаць на мітынгу ў Дзень Волі. Тады шмат людзей адчула, што ад патасу да сьцёбу — адзін крок. Яго ня трэба спыняць, "каб ня ўмерці".

*Севярын Квяткоўскі*

### "НАЙЛЕПШЫЯ" Й "РАЗУМНЫЯ" РЭЧЫ "НЭЙРАДЗЮБЭЛЯ"

***Нейродюбель. Умные вещи. The Best. — Менск: Magic, 1995.***

Шчырасьць, прастата й працавітасьць — вось тры характарыстыкі, якія азначаюць творчы шлях менскага рок-гурта "Нэйрадзюбэль". "Будь проще, и к тебе потянутся люди", — у дадзеным выпадку гэтая небясспрэчная мудрасьць працуе "на ўсе сто". Прэзэнтацыю гэтага альбому, што адбывалася ў Альтэрнатыўным тэатры, "дзюбэлі" прымеркавалі да сьветлага сьвята савецкае касманаўтыкі. Гэта цалкам лягічна, паколькі гурт зьяўляецца прадстаўніком той плыні ў рок-культуры, якая вызнае эстэтыку сьцёбу з "саўка". Наўрад ці чатырнаццацігадовы прадстаўнік "новага пакаленьня" можа да канца "ўрубіцца" ў "прыкол" сьвята 12 красавіка, але за апошнія два гады яму далі магчымасьць адчуць што такое сапраўдны "савок". Пэўна, ня толькі для маладзёнаў сьвежа прагучалі такія хіты, як "Буду б... тоска", "Петрова, подай воды", "Беларусь убер алес", "Боже, покарай Англию", "О.К.(О.В.)"...

Паводле падлікаў аўтараў, "у альбоме было выкарастана трыццаць адно нецэнзурнае слова, невымерная леньне беларускай зямлі". Нардычна-агрэсіўная музыка "Нэйрадзюбэля" дае цудоўную магчымасьць для выплеску адмоўнай энэргіі. Эфэкт асабліва поўна дасягаецца падчас канцэртаў, якія лідар гурта Саша Кулінковіч імкнецца пераўтварыць у змрачнаватыя хэпэнінгі.

Дзейнасьць "Нэйрадзюбэля" ў менскім рок'н'роле ўнікальная. Асабіста мне дзіка чуць матывы расейскіх народных песень "у найлепшых творах" гурта. На што на што, а "на ўсход" нашыя сталыя рокеры ніколі не хварэюць. Нягледзячы на гэта, трэба аддаць належнае панкавым шчыраваньням "дзюбэляў". Працуюць яны пісьменна й на ўсю катушку. Як кажа мая знаёмая супрацоўніца радыё, галоўнае, каб слухачам было цікава.

*Севярын Квяткоўскі*

### НА ШЭРЫМ ВІНІЛЕ

Дзякуючы незалежнай кампаніі Tian An Men 89 Records, першы беларускі андэграўндны калектыў выпусьціў кружэлку на Захадзе. Кружэлка гомельскага гурта "Мандраж" зьявілася ў Страсбургу і ўвабрала ў сябе шэсьць бадзёрых кампазыцыяў леташняй панк-эўфарыі. Уражваюць ужо назвы песень: "Мясакамбінат", "Контррэвалюцыя-1", "Як я Вас ненавіджу". Зрэшты, гэты гомельскі гурт, які цяпер выразна прагрэсуе, ужо вядомы сваімі жывымі панк-шоў і скрайнімі нігілістычнымі поглядамі.

Дакумэнтальны фільм "Шабаш сатаны", зьняты пецярбурскай тэлевізіяй пры ўдзеле "Мандража" каля году таму назад, стаў пачаткам скандальнай вядомасьці нашых землякоў. Сёньня выступы гурта ўвесь час здымаюць на відэа. Апошняе дасягненьне гурта — зьяўленьне на дзяржаўнай тэлевізіі ў перадачы "Крок". На радыё іх не пускае цэнзура.



"Мандраж" паводле прыроды сваёй апалітычны, але на кожным выступе нязьменна бянтэжыць прадстаўнікоў бамонду і ўладаў нецэнзурнай лаянкай на адрас Чаўшэскі і кампаніі. На апошнім канцэрце вакаліст Diamond прадставіў увесь букет непрыстойнасьцяў аж да публічнай мастурбацыі і спаленьня бібліі для дзяцей. Міліцыя так і не адважылася падняцца на сцэну. Басіст Кузя разламаў сваю гітару, а сола-гітарыст Ястраб даў пагаліць сябе на сцэне нагала пад шумныя воклічы натоўпу.

Гурт вядзе актыўную канцэртную дзейнасьць. 21 красавіка ў менскім панк-клюбе "Касмапалітэн" прадстаўлены новы альбом пад рабочай назвай "Скрадзена, задушана, сьпешна закапана", а да гадавіны чарнобыльскай аварыі падрыхтаваны яшчэ адзін альбом — "10 гадоў аргазму".

*Алена Паўлава, Гомель*

P.S. Калі Вас цікавіць творчасьць гомельскіх панкаў, Вы можаце затэлефанаваць ім у Гомель: (0232) 45-39-65, 52-69-65.

**ЗАНАТОЎКІ ЭГАІСТА**

*Адам Глёбус*

# БЕЛАРУСКАЕ



На максымальнай адлегласьці ад Радзімы ўзьнікае спакуса паразважаць пра роднае, беларускае. Каралеўства Тайлянд – якраз тое месца, дзе ня можна супрацьстаяць спакусам. У Бангкоку добра думаецца пра Рэспубліку Беларусь.

Беларускім можа быць паэт. А вось празаікі, драматургі, крытыкі калі й называюцца беларускімі, дык з пэўнымі азначэньнямі: беларускі савецкі празаік, беларускі крытык-сталініст, сучасны беларускі драматург. Але ўсе разам яны зьяўляюцца беларускімі пісьменьнікамі, бо ў душы кожны зь іх перш-наперш паэт.

Бульба сама па сабе гародніна беларуская. Доказам можа служыць мянушка беларуса – бульбаш. Бульбе, як БССР і Беларусі, у Акадэміі Навук прысьвяцілі цэлую энцыкляпудыю. Такую самую даведачную кнігу трэба згарбузаваць і пра беларускі лён. Ён варты залатых словаў.

Пашанцавала беларускаму балоту: пра яго пісалі кнігі, пра яго здымалі кінастужкі, яго ўвекавечвалі на карцінах і графічных аркушах. Можна толькі пачаць пералік: "Людзі на балоце" Івана Мележа, "Дрыгва" Якуба Коласа, "У Забалоцьці днее" Янкі Брыля; і рызыкуеш ня выбрацца з той пералікаўскай багны.

Беларускі зубар мог стаць ня толькі сымбалем Горадні і міліцыі, а і ўсёй беларускай дзяржавы. Ня стаў, саступіў спачатку вершніку з крыжом, а пазьней гербарыю з глёбусам. Мяркую, на чарговым эвалюцыйным вітку геральдычных баталіяў у зубра найбольшы шанец выйграць рэфэрэндум, бо ўсе беларусы больш будысты, чым ваяры і імпэрыялісты. А хто з будыстаў ня любіць карову?..

Хацелася б мне таго ці не, а з прыметнікам "беларускі" добра спалучаюцца "ўгнаеньні". Хай папракаюць у здрадзе эстэтычным каштоўнасьцям, затое застануся праўдзівы і верны нашым каштоўным выкапням.

Да ўмоўна кепскіх словазлучэньняў залічу: і татальнабеларускую млявасьць, і ўсебеларускую баязьлівасьць, і агульнабеларускую абыякавасьць.

Беларускі трактар, які меў найвялікшую пашану за часамі СССР, страціў свае пазыцыі на рынку, але ў маім сэрцы гэтая страта не знайшла спачуваньня.

Атрымаўшы беларускую дзяржаву, беларускую канстытуцыю, беларускі парлямэнт, беларускага прэзыдэнта, беларускае войска, беларускае грамадзянства і нарэшце 2.04.1996 беларускі пашпарт, шкадую пра страту ў пашпарце адзнакі нацыянальнай прыналежнасьці. Пры ўсім маім індывідуалізме, анархізме, эгаізме чамусьці захоўваецца жаданьне быць беларусам.

У тэкстах шмат словаў змацоўваецца з азначэньнем "беларускі", але ў прыродзе гэтых рэчаў і зьяваў нямашака, як няма жывых кентаўраў і мёртвых анёлаў. Няма, дарэчы, беларускага касманаўта. Сярод савецкіх і расейскіх касманаўтаў былі, ёсьць і будуць беларусы, а вось з уласна беларускім касманаўтам праблема. Дзе ўзяць грошы на вывад на арбіту беларускага касманаўта?

Беларусі патрэбны героі, якія не пашкадуюць жыцьця дзеля Беларусі, якія будуць змагацца за Беларусь, якія зь беларусам паразумеюцца па-беларуску, якія дбацьмуць пра незалежную, вольную, багатырскую Беларусь, нават у Каралеўстве Тайлянд.




Кніга стала прадаецца ў наступных пунктах:

У МЕНСКУ: у шапіку ТБМ (каля Нацыянальнага Банку), у Літаратурным музэі М.Багдановіча (вул. Багдановіча, 7а) і ў фае Нацыянальнае бібліятэкі;
У ГОМЕЛІ: у аддзеле інфармацыйных тэхналёгіяў абласной бібліятэкі;
У ГОРАДНІ: у шапіку "Васілёк" (каля ўнівэрсытэту);
У МАЛАДЭЧНЕ: у шапіку ТБМ (на чыгуначным вакзале).

У іншых выпадках раім зьвяртацца да сыстэмы "Кніга-поштай". Для гэтага трэба 41.000 БРБ пералічыць на адрас: Андрэеўскі Андрэй Паўлавіч, Менск 220094, а/с 89. Не забудзьцеся падаць свой адрас.

*Андранік Антанян*

# Concerto

Трэці год ужо жыву ў Вільні, ды ніяк не магу ўцяміць, чаму літоўцы па-сапраўднаму, з шырокім размахам, з п'янымі танцамі да ўпаду сьвяткуюць толькі два сьвяты — Каляды ды Казюк. А Казюк, Дзень сьвятога Казіміра, які прыпадае на каляндарны пачатак вясны, любяць больш за ахутаныя містыкай Каляды.

Кірмаш. Сьвіст, шум, гоман. Субота. Я іду па Замкавай. Сёлета супэрзіма. Сьнег не вывозіцца й не прыбіраецца ад самых Калядаў. Цяпер сакавік. Субота, на Замкавай народу болей чым людзей. Крычаць гандляры. Дзеці плачуць, ныюць, нэндзяць, сьмяюцца, падаюць і дзьмуць у самаробныя сьвісьцёлкі. Натоўп рушыць у два шэрагі. Зьнізу ўверх і зьверху ўніз. Гандляры расхвальваюць свой тавар. Гарачаевіногарачаевіно — равуць яны. Натоўп у сваёй бальшыні ўжо ачмурэлы — ад кульнутых чарак, гоману, ад сьвежага паветра і поглядаў нечакана папрыгажэлых віленскіх паненак. Сьнегу па шчыкалатку. Каля кавярні "Ledaine" я прыкладаю намаганьні высьлізнуць з гэтага мора разьліванага людзей. Не выходзіць. У гэтай кавярні мяне мусілі б чакаць сябры. Але гандляры са сваёй халтурнай, кічовай, зробленай пад народную-нацыянальную керамікай, так шчыльна заставілі ходнікі сваімі латкамі, што пралезьці немагчыма. Я штурхаю людзей локцямі. У іх добры настрой, у мяне пакуль яго яшчэ няма. Уладальнікі керамікі, разьлічанай на турыстаў-дурыстаў, ды танных сувэніраў крычаць на мяне на ўсіх мовах, што маюць хаджэньне ў Віленскім краі, я ім адказваю нашмат больш адборнай лаянкай на ўсіх тых мовах. Па-літоўску, польску, расейску, ды папросту. Зрэшты, я дарэмна злуюся. Я спазьніўся на добрыя паўгадзіны, і ў кавярні даўно, мусіць, няма тых, хто чакаў мяне. Натоўп штурхае мяне наперад. Усё як мае быць. Спадзяюся высьлізнуць у якім-небудзь завулку. Мяне падштурхоўваюць рухацца хутчэй. Ва ўсіх сьвята. Адно спадзяваньне, што пашанцуе высьлізнуць з натоўпу ў які-небудзь завулак і кружным шляхам дабрацца да гэтай дэбільнай кавярні, дзе мяне, напэўна ніхто не чакае. Людзей настолькі шмат, што нават немагчыма выцягнуць з кішэні цыгарэту й прыкурыць. Такое ўражаньне, што трапіў на футбольны мач "Арарату" з тбіліскім "Дынама".

Вунь нейкі мужык набыў шклянку глінтвэйну, другі штурхнуў яго ў сьпіну, і дзьвесьце грамаў чырвонага, што кроў, віна пралілося на брудны сьнег. Недзе тут побач павінен весьці аналягічны алькагольны бізнэс мой прыяцель Дэвідас. Толькі каго тут сёньня ўгледзіш? Нікога. Ды й ня трэба.

Іду. Ад няма чаго рабіць разглядаю твары дзевак, што рушаць у адваротным накірунку, гэта значыць да Катэдры. Некаторыя нават не адводзяць вочы.

Ля Пятніцкай царквы месца становіцца болей. Ля царкоўнага плоту топчуцца мастакі. Вынікі іх патугаў у галіне жывапісу вартыя жалю. Але яны гэтага не бяруць пад увагу. Хлышчуць зь біклажак гарэлку, і жаляцца на адсутнасьць попыту на мастацтва. Насупраць галерэі "Акадэмія" нейкі патлаты рудымэнт цяжка сказаць чаго здымае на электрагітары з "Led Zeppelin". Зараз варта выйсьці на Бакшту й перакурыць у якой падваротні.

На Бакшце сьнегу ўжо да калена. Пад сьнегам лёд. Левая нага прасклізвае. Падаю на калена. Боль. Перад носам шыльда — "13 крэслаў", калі па-нашаму. Армянская кухня. Калі там сапраўды армянская кухня, то мусіць быць і армянскі каньяк.

У кавярні пуста. Бармэнка выконвае маё просьценькае пажаданьне. 50 грамаў "Юбілейнага". Бары люблю толькі за тое, што калі там п'еш, неабавязкова мець сабутэльніка. Сабутэльнікі мае, якіх я меўся сустрэць у "Ledaine", відаць, ужо пайшлі на Зарэчча, у бар да понаса Ёнаса. Цыгарэта выпалена, чарка перакулена. Добрая рэч — армянскі каньяк. Лекі ад жыцьця, на якія ня трэба выпісваць рэцэпты. Колькі цяпер часу? Гадзіна, дзьве, тры. Няма разьліку. Варта йсьці на Зарэчча. Толькі там можна каго-небудзь знайсьці.

Паміж ходнікам і праезнай часткай мяжы няма. Тут і там брудны сьнег. Машыны ня езьдзяць. Спускаюся да Ганны, сьвятой. Мінаю помнік небараку Міцкевічу, які ў страшным сьне ня сьніў, што калі-небудзь стане Міцкявічусам. Ня сьніў, але стаў.

Масток празь Вялейку. Показка пра Вялейку. Старая. Яшчэ даваенная. Сядзіць мужык на беразе рачулкі Вялейкі-Вільняле й маша рукамі. Падыходзіць да яго другі і пытаецца, маўляў, што ты такое робіш. Ды вось, адказвае, кракадзілаў пужаю. "Дык тут жа няма кракадзілаў". "Таму й няма, бо пужаю". Ня сьмешна. Рэчка, як заўсёды, цурчыць.

Адчыняю дзьверы бара. Брамкае званочак. Народу поўна. Публіка свая. Усе ўжо добра датыя. Рамунас расьпявае "Хава Тэкіла". Крэслаў пакуль хапае. Дзе ты быў? Не сыходзь адсюль нікуды. Зараз прыйдзе Аўшра, у яе дзень нараджэньня, а пасьля прыйдзе Дэвідас са сваім глінтвэйнам.

Блін, ведалі б вы з чаго ён робіць свой глінтвэйн, то ня так заўзята б яго чакалі. Мая задача прасядзець тут дзьве гадзіны, паспрабаваць дагнаць лідараў з найменшаю шкодай для кішэні. Ёнас мне прапануе пліску. Нядорага й піць можна не закусваючы-запіваючы. Прапанова прынятая. За барам сядзіць вельмі прыгожая дзеўка. Чытае ў гэтым бэдламе нейкую кнігу й не зьвяртае ні на кога ўвагі. На яе таксама ніхто не зьвяртае ўвагі. Ты мяне паважаеш? Анягож. Размова ідзе па-літоўску. Таму мне прыходзіцца маўчаць. Разумець разумею, але пакуль фразу зьвяжу — забуду, пра што пачынаў казаць. Разглядаю дзеўку. Кандыдатка ў Бэатрычэ. Натуральна, можна падысьці ды пазнаёміцца. Але... Аднак...

Ёлка распавядае пра тое, як трэба трымацца ў судзе. Яна працуе ў судзе сакратаркай, мае шыкоўны, амаль армянскі нос, ды нязмушаныя манеры. Першая пліска выпітая. Дзяўчына, што сядзела за барнай стойкай, сыйшла. Мне нехта з кампаніі выращае невядома за што праставіць. Віскі. Лёду адзін кавалак. Так і зроблена. Ёнас-гаспадар не нарадуецца. Набываю ў яго цыгарэты й распытваю пра дзеўку, што сядзела толькі што. Кажа, што ўпершыню бачыць. А што, спадабалася? Пасьля пераводзіць гаворку на беларускія навіны. Задаволіць ягоны інтарэс вельмі складана. Бо газэты бачу зрэдку, радыё ня слухаю, тэлевізар не чытаю.

Прыходзіць Віргінія, ці проста Вірга. Займае маё крэсла. Для такога імя ў яе занадта пажадлівыя манеры. Ці можа проста выдае такую даступную. Ёнас ставіць Прэсьлі. Публіка кідаецца ў танцы. Нармальна.

Там, дзе я піў гэты віскі зь лёдам. Пакуль я хаваўся зь Ёнасам, віскі нехта дапіў за мяне. Гарсон намбэр два. Яшчэ пліскі. Тут нават можна ў доўг піць. Таму гэта добры бар. За стол вяртацца не хачу. Пакуль занадта цьвярозы. Заходзяць мастакі й пачынаюць хваліцца, што сёньня зарабілі мех літаў, крывёю палітых. Выпіваюць па сто грамаў гарэлкі й сыходзяць. Паміж Менскам і Вільняй ёсьць толькі адна розьніца. У Менску п'юць па сто грамаў. У Вільні агульнапрынятая доза — 50. Мастакі выключэньне. Прэсьлі надрываецца, публіка танчыць, праўда, ня вельмі актыўна. Ужо сьцямнела. Аўшра прыйшла. Яе віншуюць. Яна жаліцца, што ня мае грошай. Зь ёй уваходзіць нейкі тып. Ніхто яго ня ведае. Аказваецца —

# "Nuori Voima" — фінскі

Ужо нейкі час у Фінляндыі выходзіць раз на два месяцы новы грунтоўны літаратурны часопіс "Nuori Voima" ("Маладая сіла"), што выдаецца таварыствам літаратараў Nuoren Voiman Liitto. Часопіс, гэтаксама як і таварыства, быў заснаваны яшчэ ў 1908 годзе, аднак напачатку выданьне прызначалася пераважна для аматараў, што дасылалі свае творы ў рэдакцыю й маглі разьлічваць на кваліфікаваную ацэнку з боку прызнаных пісьменьнікаў і крытыкаў, а то й на публікацыю. Менавіта ў такім выглядзе выданьне йснавала да нядаўняга часу. Але колькі гадоў таму часопіс "Nuori Voima" набыў новы характар: выданьне сталася "звычайным", гэта значыць прафэсійным. Такая зьмена пайшла часопісу на карысьць: ён пачаў адыгрываць вялікую ролю ў фінскім культурным жыцьці, утвараючы як бы супрацьвагу больш статычнаму ды элітарнаму месячніку "Parnasso".

Сучасны варыянт "Nuori Voima" ўяўляе сабою выданьне ня гэтак літаратурнае, як агульнакультурніцкае. Вершы, кароткія апавяданьні, урыўкі большых твораў займаюць часам меней за трэцюю частку кожнага нумару, і зазвычай гэтая частка стаіць апошняю, калі ня ўлічваць рэцэнзійнага аддзелу і рэдакцыйнае пошты. Здараюцца і выключныя выпадкі. Напрыклад, №6 за 1994 год, прысьвечаны шэрагу маладых фіна-швэдзкіх пісьменьнікаў, або "ўсходнеэўрапейскі" лютаўскі нумар за 1995 год, значную частку якога займае агляд (праўда, даволі павярхоўны) твораў чэскіх, польскіх і баўгарскіх літаратараў. Наагул жа ў "Nuori Voima" пераважаюць эсэ. І яны не датычаць самой літаратуры. Выдаўцы імкнуцца да таго, каб часопіс меў больш інтэлектуальны выгляд. Таму тэматыка эсэістычных развагаў – гэта разнастайныя зьявы на памежжы культуры, філязофіі і псыхалёгіі. Кожны нумар больш-менш адпавядае пэўнай тэме, як, напрыклад: "Сьмерць", "Уцёкі", "Мімэтызм", "Усходняя Эўропа" ці "Мяжа". У нумары пра сьмерць мы знойдзем з аднаго боку матэрыял Хэлены Сінэрва пра матывы сьмерці ў вершах нядаўна памерлай фінскай паэткі Эвы-Лісы Манэр, што яшчэ пры жыцьці сталася клясыкам, матэрыял Юкі Коскеляйнэна пад назовам "Скок у прорву" пра лёс Малькольма Ляўры ў Мэксыцы і кароткі агляд творчасьці пецярбурскага філязофска-артыстычнага гуртка "Танатас", зь іншага ж боку – эсэ пра будысцкае разуменьне сьмерці альбо развагі пра Ніцшэ.

Нумар, які мае назоў "Уцёкі", прысьвечаны перадусім эміграцыі як літаратурнай зьяве, адначасова ўтвараючы з назову штосьці накшталт катэгорыі, што зьмяшчае ў сабе разнастайныя праявы аўтаномнага культурнага функцыянаваньня. Ёсьць тут артыкул Анса Нэўвонэна "Die Kunst der Fuge. Гамбровічава філязофія эміграцыі", двойчы выступае Мілаш – найперш як герой матэрыялу "Дзіця іншай Эўропы", затым як аўтар "Пахвалы эміграцыі". Х.К.Рыіконэн піша пра архетыповага пісьменьніка эміграцыі – Авідыя, Пасі Саўканэн – пра Салмана Рушдзі. Два артыкулы распавядаюць пра Пэнці Саарыкоскі, "неўтаймаванага духа сучаснае фінскае паэзіі і аднаго з найгалоўных яе прадстаўнікоў". Пісьменьнік паўстае перад чытачом на тле сваіх працяглых выправаў і пераездаў паміж Фінляндыяй, Англіяй, Ірляндыяй ды Швэцыяй. Часопіс знаёміць таксама з Патрыкам Чамосі, пісьменьнікам з Маўрытаніі, што піша па-крэольску і па-француску, ляўрэатам Ганкураўскае прэміі за 1992 год. Бадай найважнейшая рыса ягонае творчасьці – бясконцая ба-

**АПАВЯДАНЬНЕ**

# Grosso

саксафаніст. Дарыюс. Саксафон зь ім. У футарале. Прыладкоўваецца ля барнай стойкі. Даведаўшыся, што я зь Беларусі, гучна крычыць і кажа, што нават ведае адну добрую беларускую групу. Parduotuve. Так і ё. Крама. "Крама" была ўлетку ў Вільні праездам у Вісагінас-Сьнечкус на кантры-фэстываль. Дарыюс кажа, што ў "Краме" граюць файныя хлопцы, і ён падчас літоўскіх канцэртаў быў у іх гукаапэратарам. Веру на слова. Сёньня ён будзе граць на дні нараджэньня Аўшры.

Ёнас затыкае глотку саладжаваму Прэсьлі. Правільна, дарэчы, робіць. Мяне ён дастаў, як горкая рэдзька. Нехта падаў правільную ідэю валіць адсюль. Ёнас на разьвітаньне паціскае ўсім руку. Напэўна, сёньня ў яго рэкордны абарот. Усе задаволеныя.

Большасьць ідзе да Дэвідаса. Я ж люблю належаць да меншасьці. Таму разам з Рамунасам, Дарыюсам ды Далюсам ідзем у краму па гарэлку й сок. У краме мы доўга спрачаемся, якую гарэлку браць. Усе відавочна баяцца атруціцца. Цяпер такое здараецца вельмі часта. Бярэм Lituanic'у й ідзем піць у "Галерыю". Галерэя — гучна сказана. Пакой. Мэтраў пятнаццаць квадратных. Пабеленыя сьцены. Камін. Электрапліта. Крэслы расфарбаваныя Лаўмянісам, карціны на сьценах. Так сабе карціны, калі на тое пайшло. Мы размаўляем пра тэрарызм, пра зброю, пра пісталеты. Словам, мужчынская гамана. Я пачынаю распавядаць пра тое, што аднаго разу прыстрэліў бультэр'ера. Дыягназ. Я ўжо п'яны, як сьвінтус грандыёзус.

Бутэлька выпіта, даволі, Сяджу ў крэсьле і пяю.

Ідзем да Дэвідаса на танцы. Гарсон нумар два. Грэбень гробаны грае. Трыццаць тры караблі лавіравалі, ды ніяк не вылаві... У Дэвідаса сапраўды танцы. Шчыльнасьць засяленьня ня меншая, чым была сёньня на Замкавай. Вертак круціць кружэлку. Танчаць. Наступаюць адзін адному на ногі, як заўсёды. Неспадзяваны гукаапэратар "Крамы" паціху дзьме ў сакс, паволі пачынае паціху падыгрываць мэлёдыю, прапанаваную фірмай "Мелодия". Сеў, аглядзеўся.

З рэштак сьвяточнага глінтвэйну, што, натуральна, не пасьпелі за сёньня прадаць, мне наліваюць шклянку віна. Да зубнога болю салодкае пойла. Іншых словаў няма. Але што зробіш. Каля мяне цэлая польская дэлегацыя, жаночага полу. Зь імі шмат хто зь літоўцаў спрабуе паразумецца, але дзеўкі разумеюць толькі па-расейску, гаварыць не гавораць. Зьвяртаюцца да мяне па дапамогу. У мяне з вуснаў вылятаюць розныя банальнасьці. Прыехалі зь Пецярбургу, он ест курвон, она курва etc. Ад бездапаможнасьці пераходжу на бел. мову. Першая рэакцыя гасьцей з замежжа — шок. Пасьля адна, на крывой беларускай тлумачыць мне, што яна амаль усё разумее па-нашаму, бо ейныя дзяды-бабці прыехалі ў Гданьск з Ашмянаў. Во як. Гэта ўжо нагода для больш блізкага знаёмства, ці не? Разважаць не выпадае. Бяру ініцыятыву. Дарыюс грае, але ўжо пад мэлёдыі, перадаваныя на хвалі "Вольнай Хвалі". Лепей бы ён гэтага не рабіў. Дзеўку, чые продкі былі суседзямі Смаргонскай Акадэміі, завуць Ізабэлай. Запомніць няцяжка. Віно ёсьць такое. Ізабэла. Ад яе сыходзіць нейкі шчымлівы дзіцячы пах, даўкі пах ёду ці дзіцячага мыла, дакладней вызначыць цяжка.



Сей-той ужо занудзіўся й вызваліў памяшканьне. Я таксама занудзіўся. Яшчэ ня так позна. Можна яшчэ раз зайсьці да Ёнаса ды выпіць у яго. Ізабэла чамусьці ідзе за мною. Што можа быць лепей за радага табе гаспадара. Ня ведаю. На нармальнай беларускай мове Ёнас-Ян зьвяртаецца да мяне з пытаньнем наконт таго, чаго б я хацеў зараз выпіць, ён ставіць мне. Ухмыляецца, маўляў, калі беларус беларусу не дапаможа, то што тады будзе? Нічога такога ня будзе.

А Ізабэла спытала, няўжо паўсюль, дзе я тусуюся знаходзяцца беларусы. А вы думалі, чым я займаюся ў Вільні?

# літаратурны часопіс

рацьба з культурнай і асабістай раздвоенасьцю, да якой спрычынілася жыцьцё ў дзьвюх культурах і абавязковасьць выбару паміж "ніжэйшым" і "вышэйшым", "мясцовым" і "ўнівэрсальным".

Варта ўрэшце згадаць пра №4 за 1995 год, як пра пакуль што апошні нумар, названы "Lahja", альбо "Дар". Ён мае крыху іншае, чым дагэтуль, графічнае афармленьне, і ў ім дамінуе філязофія, дакладней, развагі пра філязофскае значэньне любові і дару. Шмат апавядаецца пра хрысьціянства, ёсьць артыкул пра Сьвятога Аўгустына і два пра Сымону Вэйль. Шмат месца адводзіцца абмеркаваньню праблемы дару з гледзішча псыхааналізу і больш сучасных філязофскіх кірункаў. У сярэдзіне нумару зьмешчаны на 14-ці старонках твор Жака Дэрыды "Le temps du roi" ў фінскім перакладзе Сузаны Ліндэнбэрг – "Kuninkaan aika" альбо "Час караля". А ў больш нэўтральнай ("літаратурнай") частцы можна знайсьці між іншага два апавяданьні Данііла Хармса.

Стваральнікі сучаснага "Nuori Voima" ў большасьці сваёй людзі, народжаныя пасьля 1960 году; гэта датычыць як рэдактараў (Тар'я Райніля, Сілі Хіідэнхэйма), так і большасьці супрацоўнікаў і аўтараў (паэткі Ляўры Атанкоскі, Рыіна Катаявуоры і Хэлены Сінэрвы; празаікаў: Маркуса Нумі і Йыркі Кіiскінэн). Сярод аўтараў бываюць людзі вельмі маладыя, некаторыя зь іх яшчэ нават студэнты. Аднак усе яны здолелі знайсьці ўжо сваё месца ў фінскім літаратурным жыцьці, выдаць зазвычай некалькі кніжак – часама вельмі вядомых, як, напрыклад, леташняя аповесьць Маркуса Нумі "Kadonnut Pariisi" ("Зьніклы Парыж"). Час ад часу зьяўляюцца аўтары старэйшага веку, найчасьцей замежныя; гэта, напрыклад, прадстаўленыя адным альбо некалькімі вершамі Джон Ашбэры, Ёсіф Бродзкі, Актавіё Пас ці Томас Транстромэр. Зрэдку зьяўляецца тэкст якога-небудзь слыннага фінскага літаратара ці крытыка (літаратуразнавец Пэка Тарка альбо паэтка Мірка Рэколя), аднак ягонае прозьвішча выразна кантрастуе са звычайным аўтарскім колам.

"Nuori Voima" дасьледуе найважнейшыя культурныя зьявы нашых гадоў. Нягледзячы на, здавалася б, "шаблённасьць", каб не сказаць "школьнасьць" загалоўкаў, зьмест артыкулаў далёка ня сьведчыць пра школьнае мысьленьне аўтараў. Іхны малады ўзрост не нагадвае пра сябе тыповымі недахопамі пачаткоўцаў, разам з тым заўважаецца пэўная непрадказальнасьць і шчырасьць, уласьцівыя маладым. У нумары трэцім за 1995 год Юка Каскэляйнэн пачынае свой даўжэзны артыкул, прысьвечаны дацкаму празаіку Пэтэру Хаэгу, такімі словамі: "Калісь Talking Heads сьпявалі: "Рай – гэта месца, дзе нічога ніколі не здараецца". Быццам бы нічога надзвычайнага, але цытата гэтая характарызуе аўтараў выданьня: яны хоць і займаюцца культурай "высокаю", але не ўтвараюць альбо нават не адчуваюць дакладна мяжу паміж "тым, што прызнана" і "масаваю культураю" альбо "культурным падпольлем". Гэты недахоп пачуцьця мяжы – істотная адметнасьць "Nuori Voima", пра папулярнасьць якога сьведчыць наяўнасьць зачытаных асобнікаў часопіса ў хэльсынскіх пабах.

*"Literatura na świecie"*

## КАСЭТЫ – ПОШТАЙ

НА СКЛАДЗЕ ФОНДУ "НАША НІВА" ёсьць на продаж касэты з запісамі беларускіх музыкаў:

1. **НОВАЕ НЕБА. Сон у трамваі:** Сон у трамваі; Выбар; А ты забудзь маё імя; Жахлівая прыгожосьць; Дом; Калыханка; Таму што; Той, хто стаіць у мяне за плячыма.
2. **НОВАЕ НЕБА. Go home (1995):** Прэзыдэнт, ідзі дамоў; Дакраніся да вады; Падае сьнег; Крот-2; Электарат; Цемра; Выгнаны сын; Канцэрт у Westclub 7 сакавіка 1995 г. (жывы гук).
3. **КРАМА. Хворы на Rock-n-Roll:** Бяжы, хлопец; Здраднік; Хворы на рок-н-рол; Выпі са мной да дна; Чыкага найтс; Каханьне а шостай гадзіне; Стэфаніда; Мне мой сябра сказаў; Новая кроў; Будзь разам з намі.
4. **N.R.M. LaLaLaLa (1995):** Белыя лебедзі; Нацыя; Дарога; Мітусьня; Не хадзіце ў цёмны лес (Зомбі); Бацька; Трактар; Дзе тое слова; Дайце; Бывай; Лалалала; Халі-галі.
5. **ULIS. Life (1996):** Як плынь ракі; У вагні; Паходная; Па-над дахамі; Залаты ланцуг; Аднойчы; Пачвара; Усё было недарэчы; Альбо бывай; Па калідоры; Апошні цягнік; Усё альбо нічога; Цмок, каралева.
6. **БОНДА.** Найлепшыя песьні: Не сьпяшайся; Ліст дадому; Слуцкая брама; Кожны з нас; Падарожжа; Блюз; Вынаходнікі; Стэфка; Соль жыцьця; Раз-пораз...
7. **РЭНЭСАНС** (беларускі джаз); Sensation; Dippermouth Blues; Solitude; Medley: Hello, Dolly, Black Eyes (trad tune), Mack the Knife; Tin Roof Blues; Panama; St.James Infirmary (trad. tune); Mikita (Belarusian folk song); Washington and Lee Swing; Finish Polka (trad. tune); Memfis Blues; High Society; Basin Street Blues; Russian Dance Tune; I've Found a New Baby; Tiger Rag.
8. **БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ КАЗКІ:** Коцік Петрык і мышка; Пра што кукуе зязюля; Пых; Сынок з кулачок; Коцік, пеўнік і лісіца; Пшанічны каласок; Дзедава рукавічына; Пра падчарку; Пра старога ката; Як баба гуся прадавала; Сіняя сьвіта.
9. **РОК СУПРАЦЬ РЭВАЛЮЦЫЯЎ** ("Новае неба", "Зіндан", "Уліс", "Мроя", "Крама").
10. **БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫЧНАЯ ЛІТАРАТУРА (1-3)**

*Фонахрэстаматыя, ч. 1:* Беларускія канты; Песнапеньні пра Ефрасіньню Полацкую; Музыка невядомага аўтара XVIII ст. на вершы Сымона Полацкага; Помнік музычнай культуры Беларусі XVI-XVII ст. "Полацкі сшытак"; Мацей Радзівіл. Дывэртысмэнт у трох частках; Ёган Довід Голянд (лібрэта М.Радзівіла). Опэра "Агатка, або прыезд Пана" (1784 г.); "Нясьвіская мэса" 1730 г. (фрагмэнт); Тадэвуш Касьцюшка (1745-1817). Палянэз; Восіп Казлоўскі (1757-1831); Міхал Клеафас Агінскі (1765-1833). Палянэз Фа мінор, Палянэз Ля мінор "Розьвітаньне з Радзімай"; Міхал Казімер Агінскі (1730-1800). 3 сшытка рамансаў "Да Касі"; Эрнэст Ванжура. Увэртура да балетнай пантамімы "Арлекін-нявольнік".

*Фонахрэстаматыя, ч. 2* Л.Шлег (сл. народ.). Лубок; Д.Смольскі. Канцэртына для сола скрыпкі і аркестру; Э.Казачкоў. Увэртура для духавога аркестру; Рафаіл Вардоцкі. Апалён-заканадаўца, лібрэта М.Цяцерскага.

*Фонахрэстаматыя, ч. 3:* А.Бандарэнка, сл. Мітрапаліта Кіеўскага Іларыёна. Пахвала Вялікому князю Ўладзімеру Сьвятаслававічу; А.Мдзівані (сл. народн.). Гусельки; А.Багатыроў. Маладыя гады; В.Войцік. Сюіта ў старадаўнім стылі для цымбалаў; М.Чуркін. Калыханка для скрыпкі і ф-на; Л.Мурашка. Саната для фартэпіяна.

Для атрыманьня адной касэты неабходна даслаць 20.000 руб. на адрас: 220094 Менск, а/с 89, Андрыеўскому Андрэю Паўлавічу. Не забудзьцеся падаць Ваш адрас.

## КНІГА – ПОШТАЙ

**На складзе Фонду "Наша Ніва" маюцца кнігі:**

1. **Адам Глёбус. Толькі не гавары маёй маме...** Зборнік інтымнае прозы. — Менск: Сучасная літаратура, 1995. — 310 с.

Кнігі новай сэрыі "Сучасная літаратура" разьлічаны на поўную самаакупнасьць. Займальныя сюжэты, даверальны тон, даступнасьць — характарыстыкі гэтай сэрыі.

41.000 БРБ

2. **Адам Глёбус. Скрыжаваньне.** — Менск: БАДППР — "Ковчег", 1993. — 46 с.

Апошні зборнік вершаў Адама Глёбуса. Многія з гэтых тэкстаў сталі агульнавядомымі песьнямі, многія перакладаліся на розныя мовы. Напрыклад, польская крытыка назвала "Скрыжаваньне" лепшай беларускай паэтычнай кніжкай дзесяцігодзьдзя.

7.000 БРБ

3. **Энтані Сміт. Нацыяналізм у дваццатым стагодзьдзі.** — Менск: БФС — "Эўрафорум", 1995. — 272 с.

Кніга прысьвечана шматлікім трансфармацыям нацыяналізму ў нашым стагодзьдзі, параўнаньню яго з такімі ідэалёгіямі "выратаваньня сьвету", як комунізм, фашызм і расізм.

20.000 БРБ

4. **Джын Эйчысан. Гаваркія істоты: Уводзіны ў псыхалінгвістыку.** — Менск: БФС — "Кліч", 1995. — 312 с.

Псыхалінгвістыка — новая галіна ведаў. Дасьледаваньне прысьвечанае аналізу таго, што ў нашай мове зьяўляецца вынікам навучаньня, а што мае біялягічныя перадумовы.

20.000 БРБ

5. **Юліяна Вітан-Дубейкаўская. Мае ўспаміны.** — Вільня, 1994. — 192 с.

Гісторыя ахвярнага каханьня набожнай жанчыны і безнадзейна хворага мужчыны. Яна — дочка віленскага купца немца Юліяна Мэнке, ён — беларускі палітык і антыквар Іван Луцкевіч.

29.000 БРБ

6. **Баляслаў Лесьмян. Пан Блішчынскі** / Пераклад з польскай. — Вільня-Менск: "Наша Ніва" — "Мастацкая Літаратура", 1994. —93 с.

Клясык польскай паэзіі Баляслаў Лесьмян (1878-1937) стварае маляўнічы й зваблівы сьвет інтымных перажываньняў чалавека.

17.000 БРБ

7. **Вітаўт Кіпель. Беларусы ў ЗША.** — Менск, 1993. — 352 с.

У кнізе беларускага эміграцыйнага дасьледніка ўсебакова разглядаецца гісторыя і сёньняшні дзень беларускай дыяспары ў Злучаных Штатах Амэрыкі.

29.000 БРБ

8. **Беларускі рок-н-рол: Тэксты** ("Бонда", "Крама", "Мроя", "Новае Неба", "Уліс"). — Менск: "Ковчег", 1994. — 64 с.

7.000 БРБ

Каб атрымаць патрэбную Вам кнігу, трэба пералічыць пазначаную суму грошай на адрас: Андрыеўскі Андрэй Паўлавіч, Менск 220094, а/с 89. Не забудзьцеся падаць свой адрас.

# ПОШТА

У ціхмянай, нават на сёньняшні час, вёсцы Мядзьведнае на Ельшчыне жывуць мае старэнькія бацькі. Трымаюць жывёлу, птушку, гаруюць (так кажа маці) на сотках. На выхадныя езьдзім з братам дапамагаць. Вывозім гной, колем дровы, косім. Кожны раз тамака аўра кіруе мае ўспаміны ў дзяцінства. Апошнімі адведзінамі прыгадаў жыдоўскую сям'ю Левіных.

Улетку пяцьдзесят чацьвертага году прызначыла начальства ў пачаткоўку загадчыкам Гірша Левіна. Аронавіча або Леўка, — як казалі вяскоўцы. Пасяліўся настаўнік у бакоўцы школьнага будынку. Жонка Фаня была вялікая, поўная, не працавала. Тры дзеўкі прывез з сабою Аронавіч: Нэлю, Розу, Аню. Спрадвечна беларускае Мядзьведнае (ніхто ня краў, ня піў гарэлку) па-добраму дзівавалася з габраяў. Найперш усе зьбягаліся пабачыць, як дарэктар палюе на курэй — адзіную жыўнасьць у гаспадарцы. Фаня пасыпала чубаткам проса, Леўка з ганку з дробнакалібаркі іх страляў. Бывала, што зь першага стрэлу птушыны збой разьбягаўся, і жонка ўпікала мужа за няўдаласьць. Пра тое, што жыды любяць рыбу, Аронавіч спраўна даводзіў Медзьвяжанцам. Капаў у хлявох чырвоных чарвякоў, браў вуды ды йшоў зь бітончыкам на рэчку Славечну лавіць печкуроў. Гадамі пазьней, калі ў лаўку сталі прывозіць віно, якое хутка навучыліся смактаць старэйшыя бэйбусы, дык Левіну за пляшку выменьвалі шчупакі. О, тады Фаня рабіла "фогш". Вечарамі, бывала за поўнач, у настаўніцкай гарэла газьніца. Там мой бацька "рэзаўся" з такім жа заўзятарам Гіршам у шашкі. А вось вытрываць вясковую лазьню-парыльню, дзе бурачковы Аронавіч няшчадна секся венікам, мог хіба Іван Дзябёлы.

Мы, басаногая дзятва, звалі настаўніка Рыгорам Аронавічам. Па сабе ведаю, паважалі яго. Вадзіў нас у вясновы луг, восеньскі лес, упершыню паставіў навагоднюю ёлку, якая зьзяла маленькімі лямпачкамі й прыгожымі крамнымі цацкамі. Адна нага ў яго не згіналася, бо была прастрэленая ў вайну. Але ж Рыгор Аронавіч тэпаў у далёкія Студзеньні, дзе мы выкопвалі ліпкі, грабцы і несьлі на школьны панадворак. Цяпер гэта ўжо вялікія прывабныя дрэвы. У цяньку па нядзелях тутака сівыя дзяды гуляюць у дурня і ўспамінаюць нябожчыка Аронавіча.

Высокая пахмурная Нэля запомнілася тым, што да яе ліплі хлапцы. Зь пятае клясы трэ' было хадзіць вучыцца за пяць вёрстаў. Назад дахаты жэўжыкі прыходзілі надвячоркам, бо йшлі з Нэляю па лясным зімніку, кружным шляхам. Сярэдняя Роза хавала заўсёды рэпаныя рукі. Яна ня грэбавала сялянскае працы, бегала ў калгас палоць, жаць, капаць. Калі б не габрайскія рысы твару, дык Розу не адрозьніш ад беларускіх змучаных працаю жанок. Меншая Аня гуляла зь местачковымі падлеткамі чыста апранутая, на зайздрасьць дзяўчынкам — з гуглямі і паўкруглым у касах грабянцом...

Няма ўжо адзінае на вёсцы жыдоўскае сям'і. І штосьці вярэдзіць сэрца.

Мікола Засінец,
*Мазыр*

## ФОТАЗАГАДКА



Вы мусіце назваць тое, што выяўлена на гэтым здымку. Той, хто слушна адкажа на пяць загадак запар і дашле свой адказ, атрымае каштоўны прэзэнт. У наступным нумары — чарговая фотазагадка!

# Незаплянаваны маналёг актора Альтэрнатыўнага тэатра

***Рашэньнем Менскага гаспадарчага суда Альтэрнатыўны тэатар павінен вызваліць займаныя плошчы на вул. В.Харужай, 31-а. Працэс выйграў "Прыёрбанк". Мінкульт і Саюз Тэатральных Дзеячоў удзелу ў працэсе ня бралі. 29 красавіка адбудзецца апошні спэктакаль на гэтай пляцоўцы. "Камэдыя" К.Марашэўскага й Ф.Аляхновіча.***

***Кожная сталіца для мяне заўсёды пачынаецца з тэатру. Як тэатар — зь вешака. Упершыню патрапіўшы ў Менск гадоў дзесяць таму, я адчуў крыўду за свой сталічны горад, дзе ў тэатар ня трэба прарывацца. Набывай, як у кіно, квіток ды йдзі. Так было, пакуль не зьявіўся "Альтэрнатыўны". На ягоную прэм'еру я імкнуўся трапіць усяляк, чаго б гэта ні каштавала. На ягонай пляцоўцы ладзіліся самыя цікавыя мне (і ня толькі) імпрэзы. Клюб постэлітарнага кіно, рок-абанэмэнт у Альтэрнатыўным...***

***Хутка тэатар будзе вымушаны пакінуць будынак на рагу Крапоткіна й Харужай. Слова актору Ігару Забару.***

Зьміцер Бартосік



Ігар Забара: Вось што адбываецца. Касьцючэнка, гэта старшыня праўленьня "Прыёрбанку", выставіў нам арэндную плату — два даляры за квадратны мэтар. У нас плошча 1500 м, атрымоўваецца 3000 даляраў толькі арэнды, без камунальных паслугаў. Адкуль такія грошы?

Тэатар у гэтых сьценах існуе сем гадоў (два апошнія пад "Прыёрам"). Пакуль гаспадаром будынку быў інстытут, ніякіх праблемаў не было. Яны з нас нават арэнду ня бралі. А цяпер гаспадары — банкіры. У іх усё накіравана да прыбытку. Чаму яны нам павінны дарыць?

Я веру ў жытло. Прыкладам, ты вось жывеш у ім. Застаецца пэўная аўра. Вось на гэтай сцэне, на якой банк зьбіраецца ставіць касавыя апараты, выступалі Смактуноўскі, Акуджава, Лявонаў, Пятрэнка, Філіпенка. Імёны яшчэ доўга можна пералічваць. Вядома, аўра гэтых людзей там ёсьць ды й публіка адчувае, што падмосткі тут няпростыя. Думаю, у краіне ня знойдзецца такой пляцоўкі, якая б за колькі гадоў сканцэнтравала гэткую колькасьць такіх імёнаў. А цяпер, напрыклад, на тое месца, дзе выступаў Смактуноўскі, яны паставяць касавы апарат, які будзе лічыць грошы. Для мяне гэта дзіўна.

Таму маё стаўленьне канкрэтна да пана Касьцючэнкі вельмі нэгатыўнае. Бо гэта ішло ад яго. Ён як кіраўнік, прымае рашэньні. Ён не захацеў з намі сустрэцца, каб сказаць гэта ў вочы. Ён зваліў усё на гаспадарніка Траяна, які займаецца эксплюатацыяй гаспадарчых пабудоваў "Прыёрбанку" і мае багаты досьвед выкручваньня рук. Ён абыйшоўся з намі не сэнтымэнтальна, нібы ва ўмовах Траянскай вайны.

Нам было паабяцана, што нас ніхто чапаць не зьбіраецца, а размова йдзе толькі пра камэрцыйныя арганізацыі "West-club" і "Кляс-клюб". І літаральна праз два тыдні Траян сказаў: "Не, хлопцы. І вы таксама зьбірайцеся. Мне паступіла распараджэньне ад Касьцючэнкі". Мала таго, я асабіста запрашаў людзей з "Прыёру", і чалавек сто паглядзелі нашыя спэктаклі. Яны да нас ставяцца вельмі добра, але ж нічога не вырашаюць. А кіраўніцтва, якое ні разу не было ні на водным спэктаклі, можа, ня ведае, пра што йдзе размова. Іх не цікавіць, што гэта за тэатар.

Як бы ні было, я расчараваны паводзінамі Сяргея Аляксандравіча Касьцючэнкі. Ён вывучае мовы, надта пяшчотна дыхае ў бок Нямеччыны. Такі па-нямецку дысцыплінаваны таварыш, і банк увесь па-нямецку дысцыплінаваны. І ён павінен ведаць, што такое для банкіра, для заходняга асабліва, слова гонару. Дадзенае ў свой час ягонымі памочнікамі слова гонару ён не стрымаў.

Мы пайшлі больш цывілізаваным шляхам. Мы знайшлі прыхільнікаў у іншых колах і цяпер шукаем будынак. Самае галоўнае — трупа, гэта адзінаццаць чалавек, яна як адзіны кулак, яна сабралася, яна засталася зь Вітасам, нікуды не разьбеглася. Ды нават, пакуль мы з Грыгалюнасам месяцамі бегалі ў "Прыёр", з "Прыёру" й за "Прыёр", выпусьціла цудоўную казку. У нас быў прабел у рэпэртуары: не было спэктаклю для дзяцей. Цяпер ёсьць. Дзеці вішчаць ад захапленьня. Іх вельмі шмат ходзіць, таму што казка рабілася не па ўказцы, а з натхненьня.

Самае страшнае для мяне ва ўсёй гэтай гісторыі, што я год нічога новага не рэпэтую. Я за год хаджэньня ў інстанцыі дзесяць кіляграмаў скінуў. Дарэчы, ніякіх дыетаў і гербалайфаў ня трэба.

Мяне трохі зьдзіўляе стаўленьне міністэрства культуры. Яны, напэўна, панове зь міністэрства, думаюць, што яны — гэта й ёсьць культура. На самой справе яны якраз не культура. А культура гэта тое, чым яны кіруюць.

Сёньня іхная дапамога абмяжоўваецца паляпваньнем па плячы й цоканьнем языкоў. Мне падаецца, што мы ім трохі як костка ў горле. У нас больш за дваццаць гран-пры з розных міжнародных фэстываляў. Гэта "Залаты леў" (Львоў), "Славянскія сустрэчы" ў Кіеве, дыплём з прэстыжнага фэсту ў Санкт-Пецярбурзе. Там было дваццаць чатыры тэатры з дванаццаці краінаў. Някрошус быў, маскоўскія тэатры. Летась мы ўзялі адзін з галоўных прызоў на "Маладэчанскай сакавіцы" за спэктакаль "Лебядзіная песьня". Сёлета на "Сакавіцу" нас не запрасілі. Чаму? Можа таму, што мы расейскамоўныя? Зноў жа глупства атрымваецца. Адзін з самых папулярных нашых спэктакляў ідзе па-беларуску. Гэта "Камэдыя" Марашэўскага й Аляхновіча. Можа таму, што мы недзяржаўныя?.. Можа мы забіраем чыйсьці хлеб?

Я вось чаго не разумею. Прыкладам, Аляксей Дудараў. Калі я зь ім пазнаёміўся, то быў уражаны ягонай маладосьцю. (Мне здавалася, што "Парог" я зь дзяцінства ведаю). Ён, як старшыня СТД, да нас някепстка ставіцца і мае ўплыў у "Прыёрбанку", бо ўваходзіць у раду дырэктараў. Ён сапраўды намагаўся шмат што зрабіць для нас. Аднак, яго таксама не паслухаліся ў "Прыёры". Што ж гэта за рада такая, дзе чалавек, чые п'есы ідуць ва ўсім сьвеце, ня можа нічога зрабіць? На маё пытаньне: "І што цяпер, Аляксей Ануфрыевіч?" ён толькі разьвёў рукамі. Дык у чым выяўляецца падтрымка міністэрства й СТД? У тым, што мне (лічы, тэатру) далі імянны прыз Ігната Буйніцкага? Я ня бачу, каб хто-небудзь яшчэ хваляваўся, акрамя адзінаццаці чалавек трупы на чале з Грыгалюнасам.

Тое, што мы нікому не патрэбныя — няпраўда. Паводле статыстыкі ў нас 92% запаўняльнасьці залі. Мала хто можа і ў Маскве пахваліцца такой статыстыкай.

Аднак, галоўнае — захавалася трупа. А разам зь ёю і нашыя пляны. Гэта пастаноўка "Качынага паляваньня" Вампілава. Я хацеў бы, каб да двухсотых угодкаў Пушкіна ў нас гуляліся ўсе "Маленькія трагедыі". У нас ужо ёсьць "Моцарт і Сальеры". Па-расейску й па-ангельску. Цікава было б паспрабаваць па-беларуску. Але, акрамя перакладу патрэбныя й людзі, гатовыя ўкласці грошы ў гэтую справу. Тады тэатар як творчая адзінка захаваецца. ■



© НАША НІВА Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая Наклад 5000 Нумар падпісаны ў друк 28.4.1996 Надрукавана ў ЗАТ "Lietuvos Rytas" (Вільня, праспэкт Гедыміна, 12а)